PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 31 (2255) Год XLIV Беласток 1 жніўня 1999 г. Цана 1,20 зл.

## Пікет пад беластоцкім генконсульствам

Міра Лукша

21 ліпеня непадалёк будынка Генеральнага консульства РБ у Беларусі стаяў адзін маўклівы шпупленькі сяржант з вялізнай рацыяй, з якой даляталі словы, якія не датычылі таго месца. Першымі наўкол яго паявіліся прадстаўнікі беластоцкіх масмедыяў. Было нас чалавек пад дзесяць. „Ствараем новы медыяльны факт", — сцвердзілі. Прамільгнулі постаці з беларускага беластоцкага жыцця. І ўрэшце яны — тыя, хто не выехаў на канікулы і рашыўся ў спёку, пад пазычаным бел-чырвона-белым сцягам, выказаць свае меркаванні на тэму абыходзячую беларусаў і іншы свет. Яны запрасілі на гэты пікет усіх каго маглі, але прыйшлі толькі анархісты, на чале з Тамашом з-пад Гайнаўкі.

— Сарганізавалі мы ўсё гэта спантанна, — кажа Тамаш ды раздае разявакам і прахожым лістовачкі, у якіх напісана, з якой мэтай яны сюды прыйшлі. Загаловак: „Łukaszenka musi odejść!" Тут яны прадставілі ў кароткіх словах сітуацыю ў Рэспубліцы Беларусь. „Як выглядае жыццё ў Беларусі, ведае кожны беларус, а мы часта можам пабачыць у тэлебачанні... Знішчэнне нацыянальнай культуры, рэпрэсіраванне і штодзённыя здзекі над тымі, хто не пагаджаецца на такую сітуацыю... Краіна Лукашэнкі гэта краіна, дзе на 20 асоб прыпадае адзін міліцыянер, а выхад на вуліцы ў абарону сваіх правоў абазначае турму ці іншыя праблемы. Не так даўно ў нашай краіне было падобна, і таму нельга нам адвярнуцца сёння ад нашых беларускіх суседзяў... Патрабуем неадкладнага падання ў адстаўку Лукашэнкі. Хай жыве вольная Беларусь!"

Да сяржанта далучылі двух яго чуйных калег. „Сілы" былі роўныя — трошкі аддаленых іншых анархістаў (паліцыянты пачалі спісваць дадзеныя з дакументаў пікетоўцаў) ды разявак стала пароўні з сіламі парадку, якія працікаліся пешшу і на машынах па вузкай вуліцы Варынскага. Нейкая бабуля, пасля пару воклічаў моладзі „Жыве Беларусь!" і „Wolna Białoruś" пачала з адлегласці раіць, каб не стаялі тут дарма ды пайшлі працаваць. Журналісты ўзяліся здымаць калярытных Тамаша са сцягам і харошанькую, акуратна хоць odlotowo адзетую анархістачку на ровары і распытваць, чаго яны хочуць дамагчыся гэтым пікетам. Словам — увекавечваць „медыяльны факт". „Няма чаго спадзявацца, што дасягнем такімі выступленнямі адыходу Лукашэнкі! Але гэта нейкае дробнае выражэнне нашай салідарнасці з нашымі калегамі з Мінска і Гродна. Мы гэта ім абавязаны! — кажа Тамаш. — Петыцый ніякіх не перадаем, бо няма сэнсу марнаваць паперу, бо і так гэтага не

[працяг ☞ 2]



Даклад чытае праф. Васіль Белаказовіч.

**„... Беларусы не выступаюць супраць уладаў ці іншых людзей, але ахвотна аплёўваюць адзін другога" (з даклада д-ра Мікалая Крука).**

# Цярністы шлях узаемаразумення

Ада Чачуга

Толькі паспелі мы надрукаваць першую частку справаздачы Ніны Баршчэўскай з VII Міжнароднай канферэнцыі „Шлях да ўзаемнасці", што адбывалася ў Мінску 15-16 чэрвеня, як пачулі па беластоцкім радыёвяшчанні паведамленне, што VII Міжнародная канферэнцыя „Шлях да ўзаемнасці" мае адбыцца ў Беластоку 16-18 ліпеня. А гэта што такое? Мы пачалі званіць.

Найперш я пазваніла **Валянціне Ласкевіч**, сакратару ГП БГКТ. Яна сказала:

„Ад 1993 года адбываюцца (раз у Беластоку, раз — у Гродне) мастацкія сустрэчы „Беласток — Гродна". Сёлета яны адбудуцца 16-18 ліпеня. У той жа час будзе праведзена VII Міжнародная канферэнцыя „Шлях да ўзаемнасці", на якой мае быць прадстаўлена каля 40 дакладаў вучоных з Беларусі, Польшчы і Расіі.

Канферэнцыю арганізуе БГКТ і Заклад беларусістыкі Інстытута ўсходнеславянскай філалогіі Беластоцкага універсітэта пад ганаровым патранатам рэктара праф. Адама Ямруза.

Ад пачатку гэтае мерапрыемства арганізоўвала БГКТ. Заўсёды, калі былі мастацкія сустрэчы „Беласток — Гродна", адбывалася і канферэнцыя".

Трэба было шукаць прафесара Аляксандра Баршчэўскага, арганізатара мінскай канферэнцыі. Пры нагодзе мы пагаварылі з яго жонкай Нінай. **Ніна Баршчэўская**:

„Ініцыятарамі і арганізатарамі канферэнцыі „Шлях да ўзаемнасці" з'яўляюцца Кафедра беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта і Польскае беларусазнаўчае таварыства. Сама ідэя канферэнцыі — Алеся Баршчэўскага. Сем гадоў таму дамовіліся з Саюзам палякаў у Беларусі, што канферэнцыя будзе праводзіцца раз тут, раз — там. Да супрацоўніцтва прыцягнулі БГКТ.

Такім чынам, былі чатыры арганізатары канферэнцыі: Кафедра беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, Польскае беларусазнаўчае таварыства, Саюз палякаў у Беларусі і БГКТ.

Калі Беларускае таварыства павяло пралукашэнкаўскую палітыку, было вырашана аддзяліцца ад БГКТ. Далучылі Скарынінскі цэнтр і Польскі інстытут у Мінску.

Няясна, чаму БГКТ працягвае ладзіць канферэнцыі, калі яно не было ініцыятарам, а ўсяго суарганізатарам. Мы лічым, што Беларускае таварыства бяспраўна пераняло ідэю канферэнцыі „Шлях да ўзаемнасці", і таму нашы ўстановы працягваюць надалей яе арганізоўваць.

У мінулым годзе ўдзельнікі канферэнцыі (ужо асобнай) у Белавежы асудзілі і назвалі бяспраўнымі пачынанні БГКТ".

Нарэшце нам удалося звязацца з **праф. Аляксандрам Баршчэўскім**. Ён не скрываў свайго абурэння:

„У 1992 годзе я звярнуўся ад імя Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта і Польскага беларусазнаўчага таварыства (праф. Аляксандр Баршчэўскі — яго старшыня — **рэд.**) у Міністэрства культуры. Яны мне там сказалі, што падтрымліваюць розныя ідэі мерапрыемстваў, якія наладжваюць меншасныя арганізацыі. Я быў

[працяг ☞ 3]

## Арлянскія ратавальнікі

7 ліпеня ў Шастаках на рацэ Бебжы, паміж вёскамі Бужын і Мацажэ, здарылася сямейная трагедыя. Калі пачалася тапіцца 15-гадовая дзяўчынка, ёй на дапамогу кінулася на год старэйшая сястра. Калі сталі тапіцца абедзве дзяўчаты, на беразе роспачна пачалі крычаць малодшыя брат з сястрычкай. Дапамагаць ім паспяшылі трое жыхароў Орлі, якія прыехалі сюды на рыбалку.

[героі ☞ 3]

## Пяць гадоў панавання Лукашэнкі

Разам з прыходам да ўлады Лукашэнкі пачалося таксама вяртанне да саветчыны ў галіне асветы, навукі і культуры. Сёння горш, чым было пры Брэжневе. Няма ўжо ў Беларусі школ з беларускай мовай навучання. У БССР былі такія школы прынамсі па вёсках. Бацькам хлапчука з Магілёва школьныя ўлады бессаромна заявілі, што ён псіхічна хворы, таму што не валодае рускай мовай, а толькі беларускай. Ці ёсць яшчэ недзе ў свеце краіна, улады якой так пагарджаюць мовай карэннага насельніцтва?

[баланс ☞ 4]

## Як беларусы сустрэліся з беларусамі

Жанчыны з калектыву гутараць са мною ахвотна. Спачатку стараюцца нешта склеіць па-польску, а пасля пераходзяць на беларускую мову, так, як і гаварылі яны між сабою, калі я падышла да іх. „Дык хто вы, — пытаюся, — палякі ці проста беларусы-каталікі?" Большасць жанчын з усмешкай кіўнула галавой, асобы тры сказалі, што яны — палякі.

[дылема ☞ 8]

## Канец свету ў Старой Старыне

— Канец свету то будзе, — але нам, людзям! Але свету не будзе канца. Бо мы не ведаем яго пачатку, ды і канца не павінны ведаць!

— То пшэпрашам, цётко, пшэпрашам, — сказаў тады пан Мішка Т.

[прароцтвы ☞ 10]

## Чарапашыя інвестыцыі

Будова трохпавярховага блёка з 18 кватэрамі для настаўнікаў пачалася ў 1988 годзе. Побач будавалася новая школа. Настаўнікі цікавіліся будучымі кватэрамі, наведвалі будаўнічую пляцоўку, цешыліся відокам сцен першага паверха. Аднак неўзабаве надзея на хуткае наваселле прапала.

[даўгабуд ☞ 11]

# Беларусь — беларусы

## Развітанне з прэзідэнтам

Каля дзвюх з паловай тысяч гродзенцаў 21 ліпеня ўрачыста адзначылі „Першы дзень без прэзідэнта".

Напярэдадні ўвесь горад быў распісаны антылукашэнкаўскімі лозунгамі, на некаторых высокіх будынках залунналі бел-чырвона-белыя сцягі, а ў паштовых скрынях гараджан з'явіліся запрашэнні весела „правесці прэзідэнта".

Каля 16 гадзіны 21 ліпеня ў цэнтральным гарадскім парку прадстаўнікі прафсаюза прадпрымальнікаў раздавалі ўсім жадаючым рознакаляровыя надзьмутыя шарыкі, а дзецям цукеркі. У парку адразу адчуўся святочны настрой. Некалькі сотняў людзей, пераважна маладых, пачалі абмяркоўваць „знамянальную" дату, высмейваць Аляксандра Лукашэнку і яго нешматлікіх састарэлых прыхільнікаў, якія спрабавалі „врозумить молодёжь". Да аднаго з хлопцаў, што раздаваў шарыкі, падышоў міліцыянер і запатрабаваў тлумачэнне:

— Што тут робіцца?

— Нічога, проста раздаем шарыкі і цукеркі. Гэта забаронена?

— Не, — разгублена адказаў ахоўнік правапарадку, але на ўсялякі выпадак перапісаў дадзеныя з пашпарта хлопца.

Праз гадзіну падзеі перанесліся на плошчу Леніна. Тут ужо сабралася каля дзвюх тысяч людзей. Большасць мела на грудзях бел-чырвона-белыя стужачкі. З'явіўся хлопец з гармонікам і зайграў марш „Развітанне славянкі". А пасля людзі кінуліся ў скокі пад „Польку", „Лявоніху" і г.д. Іншыя трымалі ў руках плакаты: „Лукашэнка, гэта ўжо ўсё!", „Першы дзень без прэзідэнта", „Бывай Лука".

Трэба адзначыць, што дзень быў надзвычай спакотны і некаторыя хаваліся ў цень ад помніка Леніну. „Нарэшце і ён на нешта спатрэбіўся", — заўважыла адна дзяўчына.

Прыкладна праз паўгадзіны, намеснік старшыні Гродзенскай гарадской Рады БНФ прафесар Алесь Астроўскі заклікаў прысутных прайсціся па „памятных" месцах Гродна, якія наведваў былы прэзідэнт. Удзельнікі акцыі згуртаваліся ў калону, над якой адразу з'явіліся бел-чырвона-белыя сцягі, і рушылі па цэнтральнай (Савецкай) вуліцы да палаца тэкстыльшчыкаў, дзе ў 1994 годзе кандыдат у прэзідэнты Аляксандр Лукашэнка раздаваў абяцанкі гродзенцам.

Па шляху да калоны далучылася яшчэ некалькі соцен людзей. „Радзіма! Свабода! Далоў Луку ўрода!", „У адстаўку!", „Жыве Беларусь" — скандзіравалі ўдзельнікі шэсця.

Каля палаца тэкстыльшчыкаў адбыўся мітынг. Выступоўцы казалі пра цяжкія наступствы праўлення Лукашэнкі для Беларусі, пра тое, што нават калі ён не адыдзе ад улады, прэзідэнтам ужо не будзе, а толькі ўзурпатарам. Падобны мітынг адбыўся і каля Драмтэатра, тут у 1996 годзе Лукашэнка ўпершыню заявіў пра намер правесці рэферэндум. Пасля імпрэза перанеслася на бераг Нёмана, дзе ўрачыста быў патоплены лукашэнкаўскі чырвона-зялёны сцяг.

Міліцыянеры, якіх было надзвычай шмат, не перашкаджалі ў правядзенні мерапрыемства. Але, калі яно скончылася, затрымалі 7 чалавек, якіх палічылі найбольш актыўнымі ўдзельнікамі. Неўзабаве трое непаўналетніх адпусцілі, а старшыню гарадской Рады БНФ Сяргея Мальчыка, яго намесніка Алеся Астроўскага, сябру фронта Міколу Ворана і рэдактара газеты „Пагоня" Міколу Маркевіча прыцягнулі да адміністратыўнай адказнасці.

Назаўтра адбыўся суд. Алесю Астроўскаму далі 200 мільёнаў штрафу. Мікола Воран заявіў, што не будзе размаўляць з суддзёй па-руску і запатрабаваў перакладчыка і адваката. Тое ж зрабілі і два іншых падсудных. Суды над імі адтэрмінаваны на некалькі дзён.

**Зміцер Кісель**

## „Тусоўка" ў Віцебску

Увечары 20 ліпеня ў Віцебску ў скверы побач з пляцам Уладзіміра Леніна Аб'яднаная грамадзянская партыя зладзіла народныя гулянні з нагоды завяршэння паводле Канстытуцыі 1994 года прэзідэнцкага тэрміну Аляксандра Лукашэнкі.

Праўда, народнымі гэтыя гулянні можна назваць з нацяжкаю. Жыхары горада былі слаба апавешчаны аб ініцыятыве АГП. Арганізатары запрасілі на мерапрыемства чальцоў партый і грамадскіх аб'яднанняў розных накірункаў. Не дазволенае ўладаю мерапрыемства прыцягнула з паўсотні віцяблянаў. Імпрэза ў цэлым абмежавалася да „тусоўкі" дэмакратаў, якія час ад часу дэманстравалі адзін адному свае негатыўныя адносіны да вынікаў пяцігадовага кіравання прэзідэнта. Падчас акцыі збіраліся подпісы ў абарону палітычнага зняволенага Міхаіла Чыгіра. Сярод удзельнікаў мерапрыемства і мінакоў распаўсюджвалася апазіцыйная перыёдыка.

Завяршыліся гулянні вывешваннем на дрэве прадстаўнікамі мясцовых дэмпартый і некаторых недзяржаўных арганізацый надзьмутых прэзерватываў з надпісамі „Канец прэзідэнта".

Міліцыя ў ход імпрэзы не ўмешвалася. Аднак пасля гулянняў былі затрыманы і адвезены ў Кастрычніцкі РАУС распаўсюджвальнік дэмакратычнай прэсы, сябра Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі „Народная грамада" Васіль Ігнаценка з непаўналетняю дачкой Тацянай. У іх канфіскавалі нумары газет і ўлёткі, якія заклікаюць віцяблян да ўдзелу ў санкцыянаваным мітынгу 27 ліпеня з нагоды Дня Незалежнасці.

**Кастусь Коцікаў,**
**НРІА „Контур-INFO"**

## Папраўка

У 31 н-ры „Нівы" ад 25 ліпеня 1999 г. у тэксце інтэрв'ю з Владзімежам Цімашэвічам „Адкрываю карані" была дапушчана памылка. У ходзе тэхнічнай апрацоўкі тэксту ў адным сказе прапалі два словы, якія ўчынілі яго не надта зразумелым. Сказ гэты (у пачатку адказу на першае пытанне — стар. 1) павінен гучаць наступным чынам: „Праўда, нарадзіўся ён у Сімбірску ў 1917 годзе падчас бежанства". За памылку перапрашаем.

**Рэдакцыя**

## Пікет пад беластоцкім генконсульствам

[1 ☞ працяг]
возьмецца пад увагу; усе гэта ведаюць, як да петыцый ставіцца Лукашэнка. А спадар Крэчка — дыпламат, апанаваны, спакойны чалавек. Маем надзею, што да нас выйдзе".

Журналісты падаліся да генеральнага консула ў сядзібу, а маленькі каляровы тлумок перамешаны з мундуровымі спакойна пад сцягам стаяў ля ўсходаў. „Прабуюць яны нас злавіць на няведанні законаў, — усіхаецца Тамаш, кланяючыся паліцыянту. — Калісьці на загад разысціся мы адразу разыходзіліся. Ад 1990 г. не існуе тэрмін «нелегальная дэманстрацыя», а толькі пра дэманстрацыю вышэй 15 асоб трэба раней заяўляць. І калі няма «zakłócania porządku», яны не могуць скарыстаць сілу". Ну, пастаялі, пастаялі ды пайшлі па вуліцы Ліповай, звінуўшы сцяг, дахаты, а за імі пазіраў нейкі чалавек з машыны.

Генеральны консул Мікалай Крэчка, „спакойны чалавек", як яго, здаецца, з пэўнай сімпатыяй назвалі беластоцкія анархісты, выказаўся такім чынам:

— Што я хацеў сказаць? На жаль, апошнім часам палітычная ментальнасць, асабліва еўрапейская, складаецца з таго, што нейкім выпадкам прызнаецца краіна, якая мае свой палітычны шлях, жыве са свайго розуму і не стаіць у гэтай калейцы да Еўрасаюза ці НАТО, не жабруе недзе ў міжнародных фондах. Цяжкае становішча ў нас, але ж, як я падкрэсліваў не адзін раз, захавалася тая стартавая пазіцыя, з якой мы яшчэ можам, як гаворыцца, дасягнуць добрых і гаспадарчых, і палітычных вынікаў. Я хацеў бы падкрэсліць, што мы маем дачыненне да краіны, якая сёння непадлегла, суверэнна вырашае свае пытанні. І таму, хто там павінен кіраваць, гэта права належыць да народа Беларусі. Ён сказаў свае слова ў 1996 г. і зараз, калі б мы праводзілі выбары, на што настойвае апазіцыя ці хто яшчэ там, — вынік будзе такі самы. Маем сёння электарат такі, які маем. А, па-другое: тое, што ў нас няма апазіцыі такой, як, напрыклад, у Польшчы, у многіх кірунках не вельмі добра робіць для таго, каб у нас была стабільная сітуацыя на палітычнай арэне ў нашым краі. Гэта мае ўплывы і на міжнародныя стасункі. А тое, што сёння паасобныя апазіцыянеры гавораць, што ламаюцца правы чалавека, што ідуць праследаванні вольнадумцаў — гэта не больш як апінія, гэта не выражае — сёння — інтарэсаў нейкай сацыяльнай групы.

— Ідзем мы да таго, што будзе ў нас моцная апазіцыя і што будзем мы палітычна цывілізаванымі, што працэсы дэмакратычныя будуць ісці ў тым кірунку, у якім ідуць ва ўсім свеце. А на сённяшні дзень, яшчэ раз паўтараю, выбіраць свайго кіраўніка мае права грамадзянін таго краю, якім кіруе гэты кіраўнік. Таму я лічу, што тут трэба даць час. Усё гэта самы-самы суровы арбітр расставіць на месца. Я маю на ўвазе **час**, — закончыў дыпламат.

**Міра Лукша**

## З надзеяй на лепшае

Нягледзячы на сённяшнюю сітуацыю ў Беларусі, людзі, якім неабыякавы лёс Бацькаўшчыны, ужо зараз рыхтуюць умовы для паўнавартаснага жыцця грамадства сваёй краіны. Так 21-22 ліпеня ў Гродне Фонд імя Льва Сапегі правадзіў семінар на тэму „Мясцовыя органы ўлады і грамадскія арганізацыі: супрацоўніцтва і ўдзел у грамадскім жыцці на лакальным узроўні". У ім прынялі ўдзел прадстаўнікі шэрагу грамадскіх арганізацый Гродзеншчыны і кіраўніцтва фонду з Мінска.

Як вядома некалькі месяцаў назад у Беларусі прайшлі выбары ў мясцовыя саветы. Праводзіліся яны па законе прынятым прэзідэнцкім парламентам, які можна назваць прынамсі не дэмакратычным. У выніку такі інстытут як мясцовае самакіраванне ў Беларусі сёння проста не існуе. Спецыялістамі Фонду імя Льва Сапегі пры падтрымцы нямецкага Фонду імя Фрыдрыха Эберта створаны альтэрнатыўны закон „Аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь". Ён адпавядае ўсім еўрапейскім стандартам выбарчага права і ў будучай дэмакратычнай Беларусі можа стаць асновай для рэформы мясцовага самакіравання.

Удзельнікі семінара абмяркоўвалі вышэйзгаданы закон, разглядалі прыклады працы мясцовых органаў улады Нямеччыны і Польшчы, выяўлялі як станоўчыя, так і негатыўныя моманты камунальнай сістэмы заходніх суседзяў Беларусі. Усё гэта рабілася дзеля таго, каб рэформы ў Беларусі прайшлі не закранаючы інтарэсаў людзей і былі падтрыманы грамадствам.

А напрыканцы першага дня семінара ўсе прысутныя на ім прынялі ўдзел у масавых акцыях гродзенскай апазіцыі звязаных з першым днём нелегітымнага панавання на Беларусі Аляксандра Лукашэнкі.

**Зміцер Кісель**

## Тачка гною для Лукашэнкі

Пакуль тысячы людзей у Мінску рызыкуючы сваёй свабодай патрабавалі адстаўку Лукашэнкі, легітымны Вярхоўны Савет чарговы раз выказваў сваю недзеяздольнасць.

Каля чатырох тысяч жыхароў Мінска выйшлі на вуліцы 21 ліпеня, каб выказаць свае патрабаванне скасаваць уладу Лукашэнкі. Калона дэманстрантаў прайшла па галоўных вуліцах сталіцы. Упершыню за шмат гадоў апазіцыянеры выйшлі на плошчу Незалежнасці, пасля накіраваліся на вуліцу Карла Маркса, дзе ў гэты час засядаў Вярхоўны Савет. Пасяджэнне павінна было стаць лёсавызначальным, бо ўсе спадзяваліся, што Сямён Шарэцкі возьме на сябе адказнасць выконваць абавязкі легітымнага прэзідэнта, як гэтага патрабуе Канстытуцыя. Аднак відаць дэпутаты не рашыліся на такі ўчынак. Яны выключылі са складу прэзідыума тых сваіх калег, якія яшчэ два гады таму пайшлі на супрацоўніцтва з Лукашэнкам, і абралі першым намеснікам Шарэцкага Віктара Ганчара, які выйшаў да народу, каб абвесціць пра сваю новую пасаду і сцвердзіць, што фактычна Шарэцкі з'яўляецца выконваючым абавязкі прэзідэнта, але на юрыдычнае рашэнне гэтага пытання трэба трохі пачакаць.

Галоўнай падзеяй дня ў Мінску можна лічыць учынак мастака Алеся Пушкіна. Ён падвёз да рэзідэнцыі Лукашэнкі тачку з гноем, вываліў яе і усталяваў наверсе партрэт былога прэзідэнта. За гэта мастак быў адразу арыштаваны. Зараз яго абвінавачваюць у злосным хуліганстве, за што А. Пушкіну пагражае турма.

**Зміцер Кісель**

# Цярністы шлях узаемаразумення

[1 ☞ працяг]
тады старшынёю БГКТ, а намеснікам быў Сычэўскі. Мы падключылі Таварыства — і Міністэрства грошы дало. Там яшчэ сказалі, што варта было б далучыць у лік суарганізатараў Саюз палякаў Беларусі і Польскае навуковае таварыства ў Беларусі, што я і зрабіў. Адразу было вядома, што канферэнцыя „Шлях да ўзаемнасці" не мусіць адбывацца ў Беластоку.

Міністэрства пачало даваць грошы, але Галоўнае праўленне БГКТ ані разу не паведаміла мне, колькі грошай атрымала і на што іх расходавала. БГКТ не было ні ініцыятарам, ні арганізатарам канферэнцыі, а беларусістыкі ў Беластоку тады наогул не было, дык і не магла яна мець нічога супольнага з канферэнцыяй. Усе запрашэнні кіраваліся зацікаўленым ад імя Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. На ніводным запрашэнні не было ні подпісу старшыні ГП БГКТ, ні іхняй пячаткі.

Гэта форма ўзурпатарства і падкрадання чужых ідэй. Вядома, калі б яны звярнуліся да мяне, я мог бы падказаць ім не менш цікавую формулу. Я аказаў бы дапамогу.

Мы будзем весці гэту навуковую канферэнцыю з новымі суарганізатарамі: з Навукова-асветніцкім цэнтрам імя Ф. Скарыны, Польскім інстытутам у Мінску, Польскім навуковым таварыствам на чале з прафесарам Вячаславам Вярэнічам. Акадэмік Алег Лойка выказаў гатоўнасць Філалагічнага факультэта БДУ быць суарганізатарам гэтай канферэнцыі".

І зараз жа зайшла ў рэдакцыю **Лена Глагоўская**, гісторык, ды кажа:

„Я даўно ведала, што ў Беластоку адбудзецца VII канферэнцыя «Шлях да ўзаемнасці». А тут сустракаю Рышарда Радзіка, а ён мне кажа, што едзе з VII канферэнцыі, якая якраз адбылася ў Мінску..."

Са старшынёй ГП БГКТ **Янам Сычэўскім** мне ўдалося пагаварыць ужо ў часе канферэнцыі. Ён сказаў:

„Канферэнцыю і фестываль мы пачалі арганізоўваць на аснове пагаднення паміж Саюзам палякаў Беларусі і Беларускім грамадска-культурным таварыствам у Польшчы. Тады Аляксандр Баршчэўскі быў старшынёю ГП БГКТ, а я намеснікам. Быў дагавор паміж дзвюма арганізацыямі, і Баршчэўскі як старшыня Польскага беларусазнаўчага таварыства быў навуковым апекуном, а мы былі арганізатарамі.

Мы далей вядзем канферэнцыю „Шлях да ўзаемнасці", а ініцыятыву яе арганізавання мы лічым нашай супольнай, бо тады і Аляксандр Баршчэўскі гэта было БГКТ. Калі хтосьці адышоў з таварыства, не можа забраць з сабою мерапрыемства, бо гэта не яго прыватная ўласнасць. Ці ж можа мець былы старшыня таварыства манаполію на выпрацаваныя формы дзейнасці БГКТ?! Ці можа іх забраць у кішэнь?.. А што датычыцца мінскай канферэнцыі, дык мне здаецца, што нельга навуку выкарыстоўваць да палітычных дэманстрацый".

Можа (з нашай дапамогай) чытач сам разбярэцца ўва ўсім гэтым, рассудзіць, хто тут мае рацыю. Але чаму сёлета адбыліся дзве канферэнцыі пад нумарам сем, так як і ў мінулым годзе адбыліся дзве шостыя? Ствараецца ўражанне, што маем дачыненне з нязладжаным хорам, дзе кожны стараецца перакрычаць другога.

* * *

Мне давялося пабываць на беластоцкай сёмай канферэнцыі. І хаця закідаюць, што не было на ёй „тузоў", дык мушу сцвердзіць, што некаторыя даклады былі цікавыя.

У другой палове першага дня і ў першай палове другога (калі не было пленарных пасяджэнняў) канферэнцыя працавала ў дзвюх секцыях: мовазнаўча-літаратурнай і гістарычна-культурнай. Усяго было прадстаўлена 26 дакладаў, сярод якіх толькі адзін, можна сказаць, быў „не на тэму" (маю тут на думцы даклад Любы Бесякірскай з Універсітэта ў Беластоку „Сопоставительный анализ лексики семантической группы „лестницы" на материале русского, белорусского и польского языков", прачытаны да таго на малаўпэўненай рускай мове).

Вяртаючыся да справы „тузоў", дык было іх крыху і тут, у Беластоку: праф. Васіль Белаказовіч з Вышэйшай педагагічнай школы ў Ольштыне (даклад: „Jeszcze raz o pochodzeniu Adama Mickiewicza: kryterium dziedzictwa krwi i przesłanie polskości kulturowej", новае: быццам татары лічаць А. Міцкевіча таксама за свайго), кандыдат навук Святлана Сяльверстава-Куль з Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў Мінску (даклад: „Асаблівасці фармавання беларускай нацыянальнай культуры ў канцы XVIII — першым дзесяцігоддзі XIX ст.: „паміж літвінскай і польскай традыцыямі"), праф. Генадзь Цыхун з Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук Беларусі (даклад: „Беларусы Беласточчыны і славянства (Некаторыя пытанні з гісторыі славістыкі)", праф. Валянцін Голубеў з Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі (даклад: „Гісторыя Беларусі ў працах польскага даследчыка Ежы Ахманьскага"), праф. Галіна Твардовіч з Інстытута літаратуры Акадэміі навук Беларусі (даклад: „Беларуска-сербска-польскія літаратурна-культурныя ўзаемасувязі", які праф. Ян Чыквін падсумаваў: „Нашэсце ісламу на славянства цягнецца з Балканаў, як хвост каметы..."), праф. Міхал Кандрацюк, навуковы апякун канферэнцыі (даклад: „Niektóre zapożyczenia leksykalne w gwarach polsko-białorusko-ukraińskiego pogranicza"), а таксама прарэктар Універсітэта ў Беластоку праф. Багуслаў Нававейскі (даклад: „Białorutenizmy w polszczyźnie przełomu XIX i XX wieku") ды іншыя.

Нехта заўважыў, што неприсутна наша гістарычнае таварыства (Лена Глагоўская заходзіла), другі яму запярэчыў: „А хто там ёсць, два доктары адно: Міpановіч ды Латышонак!" — „Але ёсць і Антон Міpановіч — прафесар, якога тут таксама няма!" І можа шкада, што ніхто з пералічаных гісторыкаў не выступіў з дакладам. Яны б мелі пра што гаварыць.

Адэкватнымі да месца правядзення канферэнцыі былі даклады, звязаныя з Беласточчынай: „Пасляслоўе да бібліяграфічнага даведніка «Беларуская літаратура Польшчы 1957-1998»" праф. Яна Чыквіна, у якім значная ўвага была прысвечана „Ніве", „Вакалізм гаворак польска-ўсходнеславянскага моўнага памежжа (на матэрыяле гаворак паўночнай Гайнаўшчыны)" Васіля Сегеня з Універсітэта ў Беластоку, „Сінтэз розных культур у паэзіі Яна Чыквіна" Анатоля Раманчука з Гродзенскага універсітэта, „Białorutenika w białostockich czasopismach i periodykach w latach 1998-1999" д-ра Мікалая Крука з нашага Універсітэта і іншыя. Пасля гэтага даклада разгарэліся спрэчкі. Канцэнтраваліся яны ў асноўным вакол „Часопіса" і Сакрата Яновіча. „Часопіс" у апошні час выклікае шмат дыскусій, — сказаў праф. Васіль Белаказовіч, — можа рэдакцыя павінна была б прызадумацца, як ацэньваюць гэты часопіс чытачы". „... І высвятлілася, дзе ёсць граніца між пісьменнікам, які сцвярджае, што не мусіць лічыцца з чытачом, і ім жа як журналістам, абавязак якога быць чэсным і аб'ектыўным", — сказаў Васіль Сегень.

Беларусы не выступаюць супроць уладаў ці іншых людзей, але ахвотна аплёўваюць адзін другога, канстатаваў у сваім дакладзе д-р Мікалай Крук.

Пасля даклада праф. Яна Чыквіна праф. Васіль Белаказовіч высунуў прапанову выдаць „Słownik pisarzy białoruskich" у Польшчы. І наогул, гаварыў ён, Беластоцкі універсітэт павінен шырока заняцца даследамі пагранічча, бо ёсць сёння база.

На канферэнцыі было людна. Шмат навукоўцаў, людзей культуры. Прысутнічалі і беларускія консулы, а з Варшавы прыехаў нават прадстаўнік Пасольства РБ Уладзімір Каральчук.

У Беластоку восенню будуць выдадзены матэрыялы канферэнцыі.

**Ада Чачуга**

*Фота Сяргея Грынявіцкага*

# Арлянскія ратавальнікі

**7 ліпеня ў Шастаках на рацэ Бебжы, паміж вёскамі Бужын і Мацажэ, здарылася сямейная трагедыя. Калі пачалася тапіцца 15-гадовая дзяўчынка, ёй на дапамогу кінулася на год старэйшая сястра. Калі сталі тапіцца абедзве дзяўчаты, на беразе роспачна пачалі крычаць малодшыя брат з сястрычкай. Дапамагаць ім паспяшылі трое жыхароў Орлі, якія прыехалі сюды на рыбалку.**

— Над раку Бебжу ездзім некалькі разоў у год, бо ў ёй вада чыстая і рыбы многа, — расказвае Андрэй Ахрыцэвіч з Орлі. — У гэты дзень учатырох на малым „Фіаце" пераадолелі мы 125 км і над ракой спыніліся каля 18 гадзіны. Выбралі мы адпаведнае месца для рыбалкі і пачалі вудзіць рыбу. Здалёк даносіўся вясёлы гоман моладзі, якая купалася ў рэчцы. Каля восьмай вечара пачулі мы ціхі воклік „ратунку, ратунку" і затым пранізлівы крык. Кінулі мы вуды і сталі бегчы ў той бок. На беразе сталі перапалоханыя хлопчык з дзяўчынкай, абое 10-гадовага ўзросту, і нейкая жанчына з малым дзіцём, якая паказала нам месца, дзе ўтапіліся дзяўчаты. Мы адразу скочылі ў ваду — я ў адно месца, а Славік трошкі далей. Вада ў гэтым месцы была глыбокая, але ўдалося мне заўважыць пузыркі паветра. Нырнуў я глыбей і тады пабачыў нейкі светлы кшталт. На трох метрах глыбіні ляжала дзяўчына. Схапіўя я яе за вопратку і выцягнуў на паверхню. Да берага дапамог мне даплысці Славік, а выцягнуць цела на сушу памагаў яшчэ Юрка. Дзеці сталі крычаць, што пад вадой знаходзіцца яшчэ адна асоба. Я кінуўся шукаць яе, а Славік пачаў рэанімацыю.

— На беразе аказалася, што дзяўчынка не дае знаку жыцця, — расказвае Славамір Сахарэвіч, настаўнік фізкультуры ў Пачатковай школе ў Орлі. — Твар у яе быў сіні, вочы мутныя, расплюшчаныя павекі, не чуваць было працы сэрца. Пачаў я прымяняць штучнае дыханне і масажаванне сэрца. Дзесьці за шостым-сёмым прыёмам твар дзяўчынкі стаў мяняцца, пачало працаваць сэрца. Дзяўчынка вярталася ў свет жывых, паволі вярталася ёй свядомасць. Каля трох мінут была яна ў шоку, хацела скакаць у ваду, вырывалася нам. Я моцна трымаў яе за рукі. Вады яна ў сабе мела няшмат. Калі дзяўчына супакоілася, я кінуўся ў ваду дапамагчы Андрэю шукаць другую тапельніцу, але безвынікова. Вада была глыбокая, ціск закладаў нам вушы і нельга было спусціцца на дно. Выратавальная акцыя трывала ўжо надта доўга і шансы закончыць яе паспяхова меншалі з мінуты на мінуту. З берагу даносіліся роспачныя воклічы малодшых дзяцей: „Эдытка, вярніся да нас" і нараканні на праклятую ваду.

— Пасля гадзіны прыехала паліцыя, якую паведаміў бацька дзяцей, калі мы ратавалі тапельніц, — расказваюць арлянскія вудзільшчыкі. — На двары зрабілася ўжо шэра і пошукі цела другой дзяўчынкі ды састаўленне пратакола былі адтэрмінаваны на другі дзень. Мы пайшлі на сваю стаянку і паехалі ў іншае месца. Назаўтра чатырох аквалангістаў сышлі пад ваду і на працягу 10 мінут знайшлі цела на глыбіні чатырох метраў. Мы былі пры гэтым, каб суцішыць сваё сумленне і даведацца, чаму нам не ўдалося знайсці другую дзяўчыну. Аквалангіст растлумачыў нам, што яму самому было складана падняць з дна тапельца і што аматарам гэта напэўна не ўдалося б.

З расказаў людзей вынікала, што дзяўчаты не ўмелі плаваць і што ў гэтым месцы, глыбокім нават да 15 метраў, штогод нехта топіцца. Але карыстальнікі пляжа забываюць пра здрадлівую раку і часта гэткае забыццё канчаецца трагічна. Арлянскія вудзільшчыкі таксама практычна не ведалі ракі, аднак без аглядкі кінуліся ў ваду ратаваць тапельніц. „Чым вы кіраваліся і ці ў такі сам спосаб паступіце калі-небудзь у будучым?", — спытаў я нашых герояў.

— Не раздумвалі мы над гэтым. Папросту так трэба было зрабіць, — сказаў Славамір Сахарэвіч. — Лічу, што кожны чалавек у экстрэмальных сітуацыях павінен дапамагаць другому чалавеку.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*



*Вудзільшчыкі з Орлі, якія выратавалі 15-гадовую дзяўчынку. Злева: Андрэй Ахрыцэвіч, Славамір Сахарэвіч і Юрка Жабінскі.*

# Знішчэнне мовы

**1. Мова і чалавецтва**

Чалавек стаў сапраўды чалавекам тады, калі ў жыцці ягоных продкаў адбылася першая інфармацыйная рэвалюцыя, — тады, калі ўзнікла мова для інфармацыйнай сувязі між членамі грамадства.

На шляху прагрэсу чалавецтва знайшло шмат спосабаў абмену інфармацыяй: транспартную сігналізацыю, сімволіку навукі, спартыўнага судзейства і г.д. Аднак мова працягвае займаць сярод іх вядучае месца. Усе пазамоўныя знакавыя сістэмы вытворныя з мовы. Без яе нельга было б іх стварыць, вывучаць, выкарыстоўваць.

Чалавек на тое чалавек, каб цікавіцца не толькі адным тым, што дапамагае задавальняць штодзённыя матэрыяльныя патрэбы. Яго цікавіць і тое, якім чынам ён мае зносіны з тымі, з кім сутыкаецца ў жыцці, словам, якое месца ён займае сярод сабе падобных у грамадстве.

Вышэйшай формай арганізацыі грамадства, якую чалавецтва выпрацавала, з'яўляецца **нацыя**. Нацыя стварае ўмовы для паўнейшага раскрыцця жыццёвых сілаў і магчымасцяў асобнага чалавека. Наўрад ці можна сабе ўявіць Грыга або Ібсена без нарвежскай нацыі або нарвежскую нацыю без іх?

Як і кожная людская супольнасць, нацыя не можа сфармавацца ані без зносінаў яе членаў, ані без зберажэння імі супольнай памяці аб мінулым, ані без **ідэнтыфікацыі** — пачуцця прыналежнасці розных людзей да гэтай супольнасці.

Універсальнымі спосабамі здзяйснення ўсяго гэтага ёсць агульная мова і агульная гісторыя. Мова і агульная гісторыя забяспечваюць еднасць, функцыянаванне і развіццё нацыянальнага арганізма ў прасторы і часе.

Праблемы мовы цікавяць чалавецтва здавён. Людзі паважалі слова і мову. Яны разумелі, што слова і мова адрозніваюць людзей ад жывёлы. Апостал Іаан пачынаў сваё Евангелле так: „На пачатку было Слова, і Слова было ў Бога і Богам было Слова" (Іаан,1:1).



Фота Міры ЛУКШЫ

А другі апостал — Павел падкрэсліваў: „Калі я малюся ў незнаёмай мове, дык дух мой моліцца, але розум астаецца бясплодным" (1,Кар,14:14).

Невыпадкова сваёй роднай, знаёмай з маленства мове ў нармальным грамадстве надаецца вялікае значэнне, бо менавіта „наша мова з яе блізка тысячалетнай гісторыяй, багатай (...) этнаграфіяй з'ўляецца адной з галоўнейшых астой нашай нацыянальнай індывідуальнасці", пісаў у 1926 г. адзін з бацькоў адраджэння беларушчыны Вацлаў Ластоўскі.

Невыпадкова пытанні мовы шырока абсуджаюцца ў грамадскім друку: у святле афіцыяльнага згортвання ўжывання беларускай мовы ў сродках масавай інфармацыі, у навучанні, у справаводстве і г.д.

> Прафесар Валянцін Грыцкевіч жыве і працуе ў Санкт-Пецярбургу. Даследуе гісторыю медыцыны і геаграфіі Беларусі, гісторыю музеязнаўства, тэорыю і методыку гісторыі міграцыі беларускай інтэлігенцыі. Дзейнічае ў беларускім нацыянальным руху, з'яўляецца намеснікам старшыні рады Міжрэгіянальнага аб'яднання беларусаў Расіі, старшынёй рады Беларускага грамадска-культурнага таварыства Санкт-Пецярбурга, членам ПЭН-цэнтра і Саюза пісьменнікаў Беларусі. У цыкле артыкулаў „Знішчэнне мовы" асвятляе розныя спосабы выціскання беларускай мовы з ужытку ў Рэспубліцы Беларусь (раней у СССР) праз асвету, „выбар" мовы навучання без выбару, скарачэнне тыражоў выданняў, дэмаграфічную палітыку, знішчэнне моваведаў ці стварэнне імперскай мовы г.зв. „навамовы".

Камусьці можа здацца, што выцісканне беларускай мовы з ужытку гэта з'ява толькі сённяшняя, часовая, і нават што гэта натуральны працэс. Аўтару хочацца прасачыць вытокі гэтай складанай справы, паказаць, што ўсё гэта закаранена значна глыбей, чым гэта адбіваецца на яе паверхні.

Для кожнага ёсць натуральны шлях. І ёсць магчымасць ісці ім або збочыць.

Збочыць вельмі лёгка. Крочыць натуральным шляхам таксама лёгка. Усё вырашае выбар самой асобы.

Ёсць выбар свядомага беларуса: размаўляць сваёй прыроднай мовай, ведаць гістарычнае мінулае свайго народа.

І ёсць выбар хісткай асобы: знешне прыняць чужую мову, нібыта сваю, ведаць чужую гісторыю замест сваёй.

Трэцяга не дадзена.

Але і ў таго, хто абраў шлях свядомага беларуса, ёсць яшчэ адзін выбар. Можа заставацца ў разуменні мовы на ўзроўні апісання асобных з'яваў, канстатацыі асобных фактаў.

І можна перайсці да тлумачэння фактаў, да іхняга аналізу.

Усё залежыць ад падрыхтаванасці асобы ў школе, у далейшым жыцці.

Непадрыхтаванаму горш. Яго лягчэй падмануць. Яму цяжэй зразумець прычыны з'яваў і таму прадбачыць вынікі дзеянняў.

Таму лічу патрэбнай самую элементарную тэарэтычную і метадычную падрыхтоўку кожнага, каму не абыякавы лёс роднай мовы. Маю на ўвазе такую падрыхтоўку ў дачыненні да мовы і да гісторыі. Бо таго, хто не задумваецца над моўнымі пытаннямі, над пытаннямі гісторыі, лягчэй пазбавіць **роднай мовы і роднай гісторыі**.

Аўтар прапануе ў серыі артыкулаў пэўны мінімум ведаў для свядомага выраблення нацыянальнага моўнага светапогляду — сістэмы ведаў пра нацыю і мову, а не проста сумы выпадковых дадзеных пра іх. Тэарэтыка-метадычная складанасць гэтых ведаў нязначная. Але і гэты мінімум мусіць быць засвоены кожным, каго цікавіць, якім чынам трэба захаваць родную мову ва ўжытку.

*(працяг будзе)*

**Валянцін Грыцкевіч**

# Пяць гадоў панавання Лукашэнкі

Паводле канстытуцыі, прынятай Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь 14 сакавіка 1994 г., у ліпені гэтага года скончыўся тэрмін паўнамоцтваў прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі. Але, як вядома, прэзідэнт загадзя пастараўся стварыць юрыдычныя падставы, каб астацца пры ўладзе. Падчас другога рэферэндуму ў лістападзе 1996 г. змяніў ён канстытуцыю і прадоўжыў свае паўнамоцтвы да 2001 года. Згаданы рэферэндум быў карыкатурай дэмакратыі і дэмакратычнага выяўлення волі грамадства. Прэзідэнту, аднак, гэта дало падставы спасылацца на дазвол народа аднавіць таталітарную сістэму кіравання.

Які баланс пяцігадовага панавання Лукашэнкі? У суседніх рэспубліках — Літве, Латвіі, Эстоніі, Украіне ўзніклі незалежныя, нацыянальныя дзяржавы, у якіх народ стаецца сапраўдным суверэнам. Тым часам ніхто ў свеце і мала хто ў Беларусі верыць у тое, што ў гэтай рэспубліцы пра нешта вырашае народ. У 1990 г. пачалася нараджацца не толькі незалежная Беларусь, але таксама грамадзянскае мысленне пра дзяржаву. Для часткі беларусаў, хаця можа яшчэ і невялікай, упершыню заіснавала нешта, што называецца нацыянальным гонарам. Для эміграцыі і беларусаў, пражываючых у суседніх краінах, з'явілася надзея, што іх адстойванне беларускасці, часта ў вельмі неспрыяльных умовах, будзе служыць Бацькаўшчыне. Пару месяцаў пасля выбару Лукашэнкі на пост прэзідэнта толькі г.зв. советские люди маглі быць задаволенымі. Прэзідэнт абяцаў вяртанне краіны ў глыбокае мінулае і — трэба прызнаць — слова стрымаў. Скончылася свабодная дыскусія наконт выбару шляхоў развіцця нацыі, на яе месцы з'явіўся асаблівы спектакль з удзелам аднаго акцёра, які паўтараўся ў тэлебачанні амаль кожны дзень. У вачах людзей нанава з'явіўся страх, а інтэлігенцыя шчырыя размовы зноў пачала весці шэптам. Нават апазіцыйных дэпутатаў служакі Лукашэнкі трапалі ў парламенце, парушаючы тым самым усе цывілізаваныя нормы палітычнага жыцця. Пры ўладзе неўзабаве апынуліся афіцэры расійскіх спецслужбаў, якія раней былі найчасцей супрацоўнікамі савецкага КДБ. Разам з Лукашэнкам ініцыявалі яны рэферэндум у справе нацыянальных сімвалаў і дзяржаўнай мовы. Дэмагогія і хлусня, выцякаючыя з манапалізаваных дзяржавай сродкаў масавай інфармацыі, зрабілі сваё. Пасля рэферэндуму нейкі лукашэнкаўскі дзікун Ціцянкоў перад камерамі прэзідэнцкага тэлебачання рваў беларускі нацыянальны сцяг. Гэта быў звычайны жэст акупацыйнай пыхлівасці.

Разам з прыходам да ўлады Лукашэнкі пачалося таксама вяртанне да савецкасці ў галіне асветы, навукі і культуры. Сёння горш, чым было пры Брэжневе. Няма ўжо ў Беларусі школ з беларускай мовай навучання. У БССР былі такія школы прынамсі па вёсках. Бацькам хлапчука з Магілёва школьныя ўлады бессаромна заявілі, што ён псіхічна хворы, таму што не валодае рускай мовай, а толькі беларускай. Ці ёсць яшчэ недзе ў свеце краіна, улады якой так пагарджаюць мовай карэннага насельніцтва? У 1998 г. паказалася ў Беларусі кніжка *Гісторыя Беларусі* ў дзвюх частках. Прыгожая, цвёрдая вокладка, цісненыя залатыя літары на ёй. Рэдактарамі выдання з'яўляюцца прафесары Я. К. Новік і Г. С. Марцуль. Кніжка рэкамендуецца Міністэрствам адукацыі РБ у якасці дапаможніка для студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў. Можна там прачытаць, што асвечаныя бальшавікамі беларускія масы чакалі камунізму як выбаўлення. „Да кастрычніка 1917 г. выступленні пралетарыяту, сялянства Беларусі і салдат Заходняга фронту згуртаваліся ў адзіную плынь, была створана сацыялістычная армія сацыялістычнай рэвалюцыі" (ч. II, с. 17). Чытаючы далей можа скласціся ўражанне, што бальшавіцкія камісары — Карл Ландар, Аляксандр Мяснікян, Вільгельм Кнорын, якія пацыфікавалі беларускі нацыянальны рух, былі найбольшымі беларускімі нацыянальнымі героямі. Беларускай інтэлігенцыі прапануецца паважаць тых, якія знішчалі першую беларускую незалежную дзяржаву — БНР, як носьбітаў нацыянальнай свабоды, збаўцаў народа. Рэнегацтва такім чынам вырастае на дабрадзейнасць, а паводзіны акупацыйных улад становяцца ўзорам палітычнага мыслення для маладых жыхароў сённяшняй РБ. Такое выхаванне моладзі знішчае волю змагання будучых пакаленняў за свабодную Беларусь, за захаванне яе прэстыжу ў свеце.

За апошнія пяць гадоў Лукашэнка прывёў Беларусь да поўнай ізаляцыі ў Еўропе. Сённяшняе прэзідэнцкае тэлебачанне паказвае яго паездкі ў Забайкальскі край ці Уладзівасток як вялікую міжнародную падзею. Візіт мэра Масквы ці Пецярбурга ў Мінск вырастае да рангу прыбыцця кіраўніка магутнай дзяржавы. Ад некалькіх гадоў беларусам пастаянна паказваецца, што іх краіна і яе ўлады — выключныя партнёры суб'ектаў Расійскай Федэрацыі.

Вяртанне да прынцыпаў камуністычнай дзяржавы выклікала таксама адмоўныя паслядоўнасці ў эканоміцы, якія будуць толькі паглыбляцца, але якія не павінны пагражаць трываласці панавання Лукашэнкі. Прыклад Паўночнай Карэі паказвае, што калі таталітарная ўлада кантралюе ўсе галіны жыцця, тады нават галодная смерць мільёнаў людзей не выклікае ніякіх хваляванняў. Кім Ір Сен таксама пасля пяці гадоў панавання не стаў аб'ектам рэлігійнага абагаўлення. Сёння, аднак, ніхто там не сумняваецца, што нябёсы падаравалі яго паўночным карэйцам дзеля іх збаўлення. У Беларусі яшчэ ніхто ад голаду не памірае, і не відаць там ніякіх прадпасылак узнікнення нейкага арганізаванага руху супраціву. Зменамі ў Беларусі ніхто не зацікаўлены таксама ў Расіі. Лукашэнка пакуль што з'яўляецца найлепшым гарантам маскоўскага кантролю над Беларуссю. Таму магчыма, што падчас наступнай кадэнцыі адбудзецца нейкі чарговы рэферэндум, у якім „народ выкажацца" за пажыццёвую ўладу Лукашэнкі ў Беларусі.

**Яўген Міpановіч**

# Літаратурная старонка (475)

*Міхась Андрасюк*

## Фірма

**1.**

Адважныя мяняюць аблічча свету. І калі ўжо той свет папрыгажэе крышку, калі накіруецца ў пажаданы бок, тады, ідучы на спатканне новым заклікам, менш адважныя прымушаны перайначыць сябе. Рэвалюцыя... Гэта ж яна нябачным дотыкам чарадзейнай палачкі прачку ператварае ў князёўну, пастушка ў афіцэра, а фурману ўручае міністэрскія лейчыны. А потым адступае, пакідаючы поле бою ўсім апошнім. Жвавым, гнуткім, прагным поспехаў. Трэба аднак помніць: што час апусташэлага поля не трывае наогул доўга. Вокамгненна пераходзяць з рук у рукі фабрыкі, мяняюцца шыльды з назвамі магазінаў, мяняюцца на гэтых шыльдах і прозвішчы ўласнікаў. Калі не мы, тады хто? — пытаюць адважныя. І гэта добрае пытанне. Хто не са мною, той супраць мяне, — заклікае прыватная ўласнасць. І гэта таксама слушны заклік.

Думка схапіць свой лёс у свае рукі нарадзілася ў Толікавай галаве даўно — мабыць — з канцом васьмідзесятых гадоў. З гэтай ідэяй з'ездзіў у Нямеччыну, працаваў там, ці не працаваў — хто ж можа ведаць. Вярнуўся голы. Маркі і долары — маляваныя ў мроях і ў пісьмах — не даехалі дамоў. „Абабралі", — раскінуў рукі на сустрэчу з жонкай, а яна і паверыла. Плакала потым адну ноч і другую, праклінаючы невядомых зладзеяў, а раніцай падымалася а шостай і як раней маршыравала на фабрыку. І — аказалася — колькі ж праўды было ў матчыных словах! Ці раз яна паўтарала: „Вучыся сынок, старайся. З хаты пацягнуць, з кішэні пацягнуць, а з галавы — ніколі". І вось асталося з нямецкага падарожжа — тое якраз, што ў галаве: думка пра ўласны бізнес. Аднак з думкамі бывае не так, як з людзьмі. Чалавек нараджаецца месяцаў дзевяць, а вось думка, асабліва калі няма для яе спецыяльных, фінансавых акушэраў, можа праляжаць у бясконцасці там, дзе яе пачалі. І калі не надта табе пашанцавала, калі ні бацька твой, ні цесць не ўчапіліся раней за бяздонную дзяржаўную касу, прадбачваецца табе даўно правераны шлях да вялікай уласнасці: першы мільён даводзіцца змахляваць.

Толікава жонка не прыйшла на свет у міністэрскай сям'і, аднак — дзякаваць Богу — пазбірала па сваіх вясковых продках тое, што трэба: ашчаднасць і працавітасць. Можна тады здагадацца, што якраз з яе кашалька бярэ сваё радаслоўе той магічны, здольны давесці да фартуны, мільён.

Вядома, не быў гэта той самы мільён, пра які думаў у сваіх інструкцыях пан Рокфелер, хаця за адзінкай нулёў ішло як трэба шэсць. Аднак тыя ж нулі пісаліся не ў Вашынгтоне, не ў Парыжы, а — у Варшаве. А гэта вялікая розніца! Песімісты гавораць нават, што польская валюта з пачатку дзевяностых гадоў не перавышала ў вартасці паперу, на якой яе друкавалі, трэба ж аднак помніць, што песімісты прыбытковымі справамі не займаюцца. Спажываюць наогул тое, што створаць рукі і розум аптымістаў. А Толік глядзеў на свет аптымістычна. Абцяжараную шасцёркай малалетніх нулёў адзінку паспяхова ператварыў у чорны дыпламат, калькулятар, пяро. Вярнуўся ў ласку шлюбны касцюм, а вось назва фірмы атрымалася цалкам дарма. У бяссонную ноч, з балбатні ўсякіх „міксаў", „рыксаў", „дэксаў", з мораку амаль, яснай бліскавіцай успыхнула „EXPO-Anatol" і так ужо асталося. У свядомасці і дакументах. З націскам на першае „а" ў слове „Анатоль".

Сядзібу фірма прыдбала пры вуліцы Баторыя, на трэцім паверсе, у непрыкметным блёку, значыць там, дзе яе ўласнік выпаўняў свае штодзённыя, жыццёвыя функцыі. Час ад часу, асабліва ў пачатку месяца здараюцца дні, калі можна напаткаць яе і ў другім месцы. Найчасцей у кафейцы „Верас".

Значыць так: з асобай галоўнага героя больш-менш мы ўжо пазнаёміліся. Тое-сёе можам прадбачваць, штонебудзь здагадвацца. Была б тады добрая пара сказаць пару слоў і пра ягоную жонку — апроч таго, што прыйшла яна на свет дзесьці там, на Гайнаўшчыне, у сялянскай сям'і — нічога больш не ведаем. А ў гісторыі фірмы і гэтая постаць мае сваё, неблагое значэнне.

Толікава жонка празявала карысны момант, калі ўся акружаючая нас рэчаіснасць перастаўлялася на другі пуць. Такія памылкі не выпраўляюцца. Спазніцца на карысны момант — не тое ж, што прапусціць нейкі цягнік ці аўтобус. Адчакаеш гадзіну-дзве і ўсё-такі паедзеш куды табе трэба. Спазніўшыся на добры час, да канца жыцця ўжо будзеш маршыраваць — заўжды пешкі, і заўжды супраць ветру. З Толікавай жонкай атрымалася няйначай. Як ахвяра ўласнай разгубленасці, шлыпае яна штодзённа ў чужую фабрыку, намагаецца, растрачвае прыгажосць і здароўе, а першага дня месяца, за ўсе тыя пакуты, прыносіць дамоў шэсцьсот новых златовак.

Фірма „EXPO—Anatol", якая ў другія дні бестурботна каўкае час разлажыўшыся на паліцах між раманамі і дэтэктывамі, сёння, бы маладая дзяўчына ў чаканні першай, патаемнай сустрэчы, з самай раніцы рыхтуецца да выхаду. Наводзіць парадкі ў паперах, складае пісьмовыя прылады, ачышчае пячаткі, а пад поўдзень раскошна ўладкоўваецца ў чорныя абдымкі дыпламата. Пачуўшы знаёмыя крокі, і знаёмае бразганне ключамі, падымаецца з тапчана і галоўны дырэктар фірмы. Ва ўмовах ранняга капіталізму кожная датацыя, хай сабе і невялікая, ставіць на ногі. Так кажуць спрактыкаваныя і няма падставы ім не верыць.

*(працяг будзе)*

*Івона Марціновіч*

* * *

кожнага дня
часам і ноччу
ад ночы
да ночы
аж золак на хвалі блісне

не пакояць мяне чыесьці вочы
кожнага дня
між жартаў
усмешак і мовы без слоў
непакоіць мяне таямнічы погляд
пяшчотнае дрыжанне
і пытанне
чаму
чаму на каханне не смяюцца званы
чаму душа ахінулася смуткам успамінаў...
калі шчаслівая ноч над чаротам срэбную вуаль
закінула
і зноў успамін і пах сухой ліпы
як нязбытая мара
але нічога
крыху маўклівасці
празрыстаці таксама трэба
аднак не жыць без музыкі слоў
без кругласці сонца
якое
перлавым каскадам абмывае званы з мальбы...
таму марыцца мне
адрадзіцца
непаўторнаю парою
калі круціцца золата лістоў
і вецер цалуе ягады рабіны
а сэрца пярэчыць словам
... як у сне...
быццам восень рыжую грыву чэша
ад якой на дне талеркі асалода медных лісцяў
залатой пасцелі дрэў
дзе вочы вачам словы пасылаюць

*Барыс Руско*

## Градабой

1

Калі гавару:
град забівае,
чую:
град толькі б'е.
Не таму наплылі чорныя хмары,
каб правіць кампліменты.
Няважна
ці яйка курынае
накорміць страусянё,
ведаю —
граду камок, калі трапны,
забівае.

2

Калі ў крывавай малацьбе,
як ваярская раць,
палегла на палетку збожжа,
сялянскімі слязьмі
зацьміўся краявід,
сонца труслівa схавалася
ў хмарах —
здранцвела на імгненне
зямля-прырода.

3

Да слёз балюча
ад градабою слоў,
ад з'едлівасці няўтольнай,
што крывацечыць
у свядомасці непачэсна.
І тыя ісціны фальшывыя,
і вера ў іх сляпая
і блеф,
што лопае занадта позна.

*Юры Баена*

## Я

Паміж мінулым і будучым
павінна быць „я" —
рэальнае, пэўнае.

„Я" чалавечае
і „я" кірылічнае, роднае.

„Я" першае
і „я" апошняе.

Аднак
на заходнім памежжы, тут,
прападае нашае „я" —
апошняе
і першае.

Застанемся мы
(я, ты...)
пры абаронным куфры.

*Міра Лукша*

* * *

Працяг
у часе распасцерты.
Як праменнем
успамін трымаецца
сэрца, жылаў.
Жэстаў застыглых.
Слоў неўміручасць,
пакуль незабіты твой свет.
Незабітаму
мною ўспаміну,
Незабытаму сябру
гэты верш.

# Зорка

**СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ**

Аўяр'ян ДЗЕРУЖЫНСКІ

## *Жнівень*

Жнівень жыта жаў
І сярпок зламаў.
Што рабіць — ай, ай!..
Ды прыйшоў камбайн:

— Слёз дарма не лі,
Абыду палі
Скрозь я, з краю ў край,
І сажну ўраджай.

## *Сустрэчы маладых журналістаў*

У днях 15-25 ліпеня ў Старыне, што каля Дубіч-Царкоўных, праходзілі журналісцкія сустрэчы маладых. Сустрэчы арганізаваліся па ініцыятыве Таварыства маладых журналістаў „Polis", якое дзейнічае ў Варшаве. Галоўнай мэтай варштатаў было збіранне матэрыялу да рэпартажу, каб такім чынам пашыраць аграturystыку гэтага рэгіёна. У мерапрыемстве прынялі ўдзел маладыя журналісты з Варшавы, Мазурска-вармінскага, Свентакшыскага і Падляшскага ваяводстваў. Сярод удзельнікаў былі прадстаўнікі беларусаў звязаныя з праграмай Сустрэчы „Зоркі" і гуртком „Граблі".

**Жанэта РОЛЯ**



*Падарожніца Сара і яе мама.*

## *Малая падарожніца*

Сара мае два гадзікі. Разам са сваёй мамай, антраполагам культуры, пабывала ў Старыне. Дзяўчынка ў адрозненні ад старэйшых сяброў, начавала ў палатцы. Як паясніла мама дзяўчынкі, усё гэта дзеля гартавання.

Праўда, калі ўдзельнікі журналісцкіх курсаў наведалі Белавежскую пушчу, Сара заўсёды была наперадзе.

— Калі Сары быў годзік, мы вандравалі па трапічным лесе. Пабывалі таксама ў Гімалаях, — расказвае мама.

У Старыне наведвалі яны старэйшых жанчын. Мама Сары хацела запісаць мясцовыя казкі. Аднак усе бабулі паўтаралі, што не памятаюць ужо казак. Проста няма каму іх расказваць. Унукі наведваюць рэдка, ды і тыя ўжо польскамоўныя. У іх няма цікавасці да бабуліных казак. Пад іх уплывам і старэчы пачынаюць гутарыць на польскай мове. Такім чынам адплывае ў забыццё багатая пушчанская спадчына. Пераканаецца ў гэтым кожны, калі папросіць у бабуль расказаць нешта на іх роднай мове. Сара, хаця не ведае беларускай мовы, з увагай прыслухоўвалася аповедам бабуль. Дзяўчынка разумела сэнс сказанага. Заўсёды ў адпаведны момант рэагавала. Ды пасля, быццам птушаня, шчабятала свае каментары. Аказваецца, што ў разуменні мовы найважнейшая адкрытасць і зычлівасць для суразмоўцы.

— Шкада, што бабулі не расказваюць унукам сваіх казак, — кажа мама Сары.

**ЗОРКА**

*Фота Ганны КАНДРАЦЮК*



*Удзельнікі журналісцкіх курсаў наведалі могільнік і царкву ў Вэрстоку.*

Фота Ганны КАНДРАЦЮК

## Польска-беларуская крыжаванка № 31

Запоўніце клеткі беларускімі словамі.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 📖 | Kokarda | Wnuk | Rada | ▼ | Mnich | Fakir / Wół | ▼ |
| Burak ▶ | ▼ | ▼ | ▼ | | | Punkt | ▼ |
| ▶ | | | | | Bok ▶ | ▼ | |
| Banan / Nuda ▶ | | | | | ... Baba ▶ | | |
| Tkaczka ▶ | | | | | | 📖 | |

**Адказ на крыжаванку н-р 27:** Закалец, калона, вазак, задача, кант. Заказ, козак, балада, локан, фен, цацка.

## *Лянота*

**Частка 3**

Прыйшоў Алік дадому. Маці глянула ў дзённік і ахнула:

— Зноў двойка!

І давай крычаць на Аліка:

— Гультаіна ты! Абібок! Вось скажу бацьку — няхай зніме на цябе папругу.

Пад вечар бацька вярнуўся з работы. Маці сказала яму пра новую Алікаву двойку.

— Хоць бы раз ты насварыўся на яго, стары! — крычала маці. — Што ў цябе, папругі няма?

Бацька быў у той дзень невясёлы — нешта не паладзілася ў яго на рабоце. І ён сапраўды зняў папругу ды злёгку хвасянуў Аліка ніжэй спіны.

Алік заенчыў на ўвесь дом.

— Глядзі ў мяне! — сказаў бацька. — Калі яшчэ раз прынясеш двойку, то заробіш не такой папругі.

Крыўда агарнула Аліка — свет нямілы яму зрабіўся. Дастаў ён цішком пенал з партфеля і паклікаў сваю сяброўку:

— Лянота, Лянота!

— Што з табою, братка? — азваўся голас Ляноты. — Ты, здаецца, плачаш?

— Ага, — адказаў Алік, выціраючы кулаком вочы.

— Чаго ж ты, братка, плачаш? Чаму горкія слёзы ліеш?

— Як жа мне не плакаць? Як горкіх слёз не ліць? Усе на мяне крычаць, усе крыўдзяць. Увесь свет супраць мяне выступіў.

— Добра, — сказала Лянота. — З гэтай мінуты ты будзеш жыць спакойна: свет цябе крыўдзіць не будзе.

Толькі сказала так Лянота, як тут жа ў кватэры патухла святло.

Алік пачакаў крыху — думаў, бацька паправіць пробкі. Ды бацька чамусьці сядзіць у крэсле і не варушыц-

# Вінаваты каровы!



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Апошнім часам усе плачуць, што беларускія вёскі адміраюць. Няма маладых гаспадароў, большасць жыхароў гэта старэнькія людзі. Паводле прафесараў, этнографаў ды іншых даследчыкаў, неўзабаве ў падляшскіх мясцінах не астанецца ўжо ніхто. Я думаў гэтаксама — да пэўнага здарэння.

Пятніца, $6^{30}$ раніцы. Заходжу ў Войнаўку... і бачу ўсё аб чым талкуюць прафесары: пустая вуліца, бязлюдныя панадворкі. Такі выгляд вёскі для журналіста, шукаючага матэрыялу — жахлівы! Не ведаю, куды ісці. Мо хутчэй сустрэну аўтахтонаў на аўтобусным прыпынку? Чакаю 5, 10, 20 хвілін... Спаць хочацца... Ды вось паяўляецца чалавек! Дзядуля валачэ на ровары малако ў малачарню. На маё пытанне, дзе людзі, дзедка здзіўляецца: „Я ж — чалавек!" Мінае хвіліна. У другім канцы вёскі загрукаталі трактары. Яны штораз бліжэй. Едуць! Аж тры! Усе — у малачарню. Пасля з іншага боку вёскі тутэйшыя нясуць бітоны з малаком. За гэтыя дваццаць хвілін я ўяўляю сабе, што знаходжуся ў сэрцы якогась вялікага горада: малачарня (ратуша), скупка грыбоў (рынак), крама (піваварня), дом культуры (месца на забаву), прыпынак (вялікая чыгуначная станцыя)... Пасля людзі раз'язджаюцца, кожны ў свой бок. Астаецца толькі „цэнтр" Войнаўкі (на жаль — ізноў бязлюдны)...

Пасля нейкага одуму я ўпэўніўся, што людзі прыехалі сюды таму, што прывезлі малако, а той „цэнтр" ажывае толькі ў той час. Калі я там сядзеў і думаў, прыйшло мне ў галаву, што калі б каровы стараліся даваць малако 24 гадзіны ў суткі, тады Войнаўка жыла б поўным дыхам і ніхто не плакаў бы, што беларускае сялянства адмірае! Апрача стомы кароў не было б ніякай праблемы. А вёскі былі б увесь час жывыя! Была б таксама наступная карысць з гэтага: каровы прадукавалі б шмат літраў малака, дзякуючы чаму маглі б мы гэта прадаць за мяжу. Палепшылася б гаспадарка нашай краіны.

Вось бачыце: да вымірання беларускіх вёсак спрычыніліся толькі і выключна каровы!

**Міхась СЦЕПАНЮК**

# Жнівень

Бяда перапёлцы ў жніўні. У жніўні сярпы звіняць, камбайны гудуць, снапы покатам кладуцца... А беднай перапёлцы нідзе прытулку няма. Не паспела яна ў жыце гняздо звіць, птушанят падгадаваць, як Жнівень ужо гукае:

Час адгэтуль вылятаць —
пачынаю жыта жаць.

Ледзь уцякла перапёлка з жыта. Дзяцей ад страху пагубляла... Доўга пасля клікала іх: „Спаць пара! Спаць пара!" А калі сабрала, павяла хуценька ў пшаніцу.

— Тут зраблю гняздзечка, — кажа сваім дзеткам перапёлка.

Толькі паспела месца выбраць, як Жнівень зноў загукаў:

Пакідай сваю святліцу —
Пачынаю жаць пшаніцу!

Пырхнула перапёлка ў ячмень. Зноў дзяцей пагубляла. Доўга шукала і клікала: „Спаць пара! Спаць пара!" Знайшоўшы, павяла ў ячмень.

— Тут нас ніхто не патурбуе!

— Вылятай, перапёлка! — пачуўся голас Жніўня.

Спалохалася перапёлка і наўцёкі... Зноў дзетак пагубляла. Доўга клікала: „Спаць пара! Спаць пара!" Даклікалася і пайшла ў аўсы. Але не паспела і аснаваць гняздо, як пачула: „Вылятай, перапёлка!"

Перапалохалася бедная, сіганула ў проса, адтуль у грэчку. Нарэшце ў бульбу, а Жнівень — за ёю. „Вылятай, перапёлка! Вылятай!" — усюды чуецца яго голас.

Пырхнула перапёлка на агароды, а за ёю — дзетак чароды. Паляцела яна над лугам, а за ёю — птушаняты цугам.

Акрыялі, падужэлі яе дзеткі ад тых пералётаў. Пацямнелі ў іх крыльцы, паспрытнелі ножкі. Не агледзелася перапёлка, як дзеткі яе выраслі. А тут ужо канчаецца лета цёплае, пара ў вырай збірацца.

Сабрала перапёлка сваю вялікую сям'ю і паляцела зімаваць у вырай.

**Клаўдзія КАЛІНА**

*Жывая кніга прыроды*



*Побач крыжа ў Белавежы: (злева) Г. Кандрацюк, Міхась Сцепанюк, Жанэта Роля, Ігар Іванюк.*

ца. Маці таксама дрэмле на другім крэсле са швом у руках.

Алік выйшаў на двор. Хацеў з сябрамі пагуляць. Ды на цёмным двары нікога нідзе не відаць.

Куды ж падзеліся яго сябры? Алік, вядома, не думаў, што Лянота іх пакарала разам з усім светам.

Выйшаў Алік на вуліцу. А там — адна цемень. Ні людзей, ні машын. Дзіва!

Вярнуўся Алік дадому. Знайшоў агарак свечкі. Запаліў. Успомніў, што даўно ўжо есці хочацца. Адчыніў буфет. А ў ім — хлеба ні крошкі. Толькі масла ляжыць у сподачку. Паспрабаваў — нясмачнае масла без хлеба!

„Можа, схадзіць у магазін?" — падумаў галодны Алік. Падышоў да крэсла, на якім драмала маці.

— Мама, дай грошы. Я па хлеб збегаю.

Маці толькі прамармытала нешта і зноў заснула. Алік яшчэ раз пабудзіў яе.

— Ат, — пакруціла галавою маці, — адчапіся. Мне не хочацца ўставаць, шукаць сумку.

Будзіць бацьку Алік не адважыўся, каб зноў папругі не зарабіць. Знайшоў сам матчыну сумку, а ў ёй — некалькі медзякоў. Пералічыў: хопіць на малы батон, яшчэ і застанецца! Апрануўся і кулём кінуўся на двор.

Прыбег у магазін, глядзіць — замок на дзвярах...

„Што за ліха? — падумаў Алік. — Цяпер не больш васьмі. Гэты ж магазін зачыняецца ў адзінаццаць. Ну, што ж. Трэба садзіцца на тралейбус ды ехаць на другую вуліцу. Можа, там магазін яшчэ не зачынены".

Алік выбег на тралейбусны прыпынак. Пастаяў хвілін дзесяць — ніводзін тралейбус не паказаўся.

Тут толькі Алік успомніў, што на вуліцы няма святла. А калі няма святла, то не пойдзе і тралейбус. Прыйшлося цягнуцца пехатою ў другі хлебны магазін. Дайшоў сяк-так па цёмнай бязлюднай вуліцы. Глядзіць — і гэты зачынены. Алік кінуўся ў трэці. І трэці — зачынены. Хадзіў, хадзіў цэлы вечар ды ні з чым і дадому вярнуўся. Змарыўся так, што і на голад забыўся. Зваліўся на ложак, як сноп, ды моцна заснуў.

*(працяг будзе)*

**Алесь Якімовіч**

## Вершы Віктара Шведа

### Аднагодкі

Спыталі хлопца: — Скажы, Ігнат,
Хто з вас старэйшы — ты, ці твой брат?
— Сказала мама ў мінулым годзе:
„На год старэйшы мой брат, Валодзя".

Ну а сягоння, трэба прызнацца,
Я з родным братам паспеў зраўняцца,
І нечакана ў часе кароткім
Я з родным братам ужо аднагодкі!

### Куды пайшоў гадок?

— Паслухай, Лёня,
Мой мілы сынок,
Табе пайшоў сёння
Пяты гадок.

Цікаўны сыночак,
Пасля мамы слоў,
Даведацца хоча:
— Куды ж ён пайшоў?

# Кветка сонца

У 1492 годзе мараплавец Хрыстафор Калумб накіраваўся ў нялёгкае марское падарожжа. Ім была адкрыта Паўднёвая Амерыка, якую Калумб памылкова назваў Індыяй. Менавіта адтуль іспанскія караблі прывезлі на еўрапейскі кантынент сланечнік.

Сланечнік часта называюць кветкай сонца. Чаму? А, напэўна, таму, што ён сам вельмі падобны на маленькае жоўтае сонейка. Калі ўважліва паназіраць за сланечнікам на працягу дня, то можна ўбачыць, як ён увесь час паварочваецца ў той бок, дзе знаходзіцца сонца.

Сланечнік — гэта галоўная алейная культура. Алей ужываецца непасрэдна ў ежу, а таксама выкарыстоўваецца для прыгатавання маргарыну, кансерваў, хлебных і кандытарскіх вырабаў.

Залацістыя суквецці расліны прываблівають да сябе пчол. З плантацый сланечніку яны ніколі не вяртаюцца без пылку. А сланечнікавы сілас — цудоўны корм для жывёлы.

**Зміцрок МАРОЗАЎ**

# Як беларусы сустрэліся з беларусамі



Круці — не круці, а прызнацца трэба: на мастацкіх сустрэчах „Беласток — Гродна" я ўпершыню. А ўжо ж яны адбываюцца сёмы раз! Гэта цыклічнае мерапрыемства БГКТ праводзіць штогод ад 1993 года.

Прынцып вядомы: на гэтым фестывалі выступаюць беларускія мастацкія калектывы з Польшчы і польскія — з Беларусі.

Падыходжу да даволі вялікай групы жанчын у васільковых касцюмах, што стаяць ля аўтобуса з Беларусі. „Адкуль вы?" — пытаюся. „З Радуня, — кажуць яны, што каля Воранава". „А як завецца ваш калектыў?" „Przyjaciółki", — адказваюць яны мне. „О колькі вас сюды прыехала?" — „Дваццаць чатыры асобы. Але спявае наогул больш!" — „А што, адны жанчыны спяваюць? Дзе ж вашы хлопцы?" — „А вунь ідуць! Як ладны, то наш!"

Жанчыны з калектыву гутараць са мною ахвотна. Спачатку стараюцца нешта склеіць па-польску, а пасля пераходзяць на беларускую мову, так, як і гаварылі яны між сабою, калі я падышла да іх. „Дык хто вы, — пытаюся, — палякі ці проста беларусы-каталікі?" Большасць жанчын з усмешкай кіўнула галавой, асобы тры сказалі, што яны — палякі.

Калектыў працуе ўжо дзесяць гадоў. Кіруе ім Галіна Булчак. „Мы восьмыя выступаем, папраўце хвартухі!" — сказала адна з сяброўак. Паспееце, кажу, яшчэ ж толькі пачалося! Гаворым далей.

Жанчыны спявалі ў Іўі, Шчучыне, Поразаве, Гродне і ў Польшчы колькі разоў былі. Асабліва засела ім у сэрцы Вэнгажэва.

„А «Лявонаў» з Воранава ведаеце?" — пытаюся. „А як жа! Адзін то цяпер забіўся. У Амерыцы яны былі! Здаецца, два разы. Спявалі там, выступалі".

Памятаю, як хацелі хлопцы з „Лявонаў" паехаць у Амерыку. Якраз сустрэліся яны ў Бельску з нью-йоркскай танцавальнай групай „Васілёк" у 1989 годзе, на юбілеі 25-годдзя бельскіх „Васілёчкаў". Мушу прызнацца, што „Лявоны" зрабілі тады на мяне нязвыклае ўражанне.

... Дождж, як з вядра, лінуў па „Чарамшыне", чацвёртым нумары праграмы. Людзі пачалі ў паніцы ўцякаць. Песімісты і нецярплівыя — адразу дахаты. Публікі ўмомант паменшала прынамсі на адну трэць. А тут скончылі сваё выступленне дзяўчаты з Чаромхі, і зноў на небе паявілася сонца, а даждЖу — як не было. І ўжо пад дрэвамі няма нікога. Ізноў пачалі сыходзіцца ў амфітэатр людзі.

А я трымаюся ўсё ж бліжэй Радуня. Пасядзела я крыху ў машыне — і зноў да іх. Зацікавілі мяне гэтыя людзі з 3,5-тысячнага беларускага мястэчка.

Тадэвуш Ярмак з калектыву ўжо дваццаты год працуе настаўнікам беларускай мовы. Жыве ў вёсцы Клайшы, што ў Воранаўскім раёне. У нас усе школы беларускія. Усяго там на раён тры рускія школы. У самім Воранаве школа-інтэрнат (дзевяцігодка) для слабапаспяваючых і сярэдняя школа. У раёне 42 школы, у тым ліку 12 — гэта сярэднія. Усе пачатковыя школы — беларускія, ды адна літоўская. Рускіх — няма. (Во, каб так у Мінску, размарылася я). „А мо да вас можна было б прыехаць і папрацаваць?" — пытаецца настаўнік беларускай мовы. „Ой, — кажу, — у нас цяпер рэдукцыя настаўнікаў! Лепш не прабаваць!"

„Przyjaciółki" адспявалі тры песні: „Pada deszcz", „Kalina w lesie pochyliła się" і „Pognała woły na Bukowinę".„Ну, як?" — непакояцца яны. „Добра!" — кажу.

А вось з Ваўкавыска, да якога як рукой падаць ад нашай Ялоўкі, прыехалі аж тры калектывы, якія ўсе працуюць пры раённым Доме культуры ў Ваўкавыску. Вельмі грандыёзна прадставіўся калектыў песні і танца „Вяселле". Калектыў народнай песні „Кантылена" спяваў нешта Ст. Манюшкі, а маладзёжны калектыў „Jutrzenka" найбольш танцаваў польскія народныя танцы, але і спевы былі. Мне ўдалося пагаварыць з 17-гадовай Юляй Панасік і 14-гадовай Наталляй Качмарскай з гэтага калектыву.

У калектыве 25 чалавек. Ён быў створаны ў 1989 годзе. Юля вучыцца ў рускай школе, а Наталля — у беларускай. У іх сем сярэдніх школ. У беларускай школе нумар 2 ёсць польскія класы, а ў іншых вядуцца факультатыўныя заняткі па польскай мове.

Дзяўчаткі задаволеныя, што прыехалі ў Беласток. Ваяводскія ўлады Гродзенскай вобласці поўнасцю фінансуюць такія паездкі. На жаль, ваяводскія ўлады Падляшскага ваяводства не далі ні залатоўкі на VII мастацкія сустрэчы „Беласток — Гродна", проста праігнаравалі іх.

Што датычыць гасцей, дык выступаў яшчэ хор з Іўя (цікава спяваў „Ave Maria"), ну, а з нашых артыстаў-самадзейнікаў такія добра вядомыя калектывы, як гарадоцкі хор, „Каласкі" — маладзёжны калектыў пад упраўленнем Алы Дубец і сама Ала як салістка, бельскія „Васілёчкі", беластоцкая „Крыніца", а таксама „The Best" і „Прымакі".

На канец усе выканаўцы разам праспявалі песні „Piękna nasza Polska cała" і „Люблю наш край".

Хто прыйшоў сюды не толькі дзеля песні, мог купіць сабе нейкае беларускае ці іншае славянскае выданне. Мастак з Санкт-Пецярбурга маляваў дзецям партрэты (каляровы — за 35, а каму хацеў — маляваў дарам, можна было перакусіць: былі смажаныя каўбаскі і піва, а таксама закупіць нейкі выраб народных умельцаў з Гродна і рэзьбы па дрэве Уладзіміра і Лявона Наумюкоў, а таксама касеты з запісамі мясцовых мастацкіх калектываў. Гарэлка з-за мяжы „ішла" па 9 злотых, а за 8 злотых я купіла прыгожую скураную бранзалетку для малой.

Засмучваў факт, што на такім вясёлым святе старшыня ГП БГКТ Ян Сычэўскі ў сваёй уступнай прамове ізноў напомніў сабраным, хто марнуе грошы падатнікаў. Гэта менавіта „Ніва" — замест аказаць пашану — займаецца аплёўваннем калектываў, выканаўцаў і гасцей.

Ад сябе хацела б адказаць, што **не заўсёды**, але журналіст, што сядзеў непадалёку, зрабіў гэта лепш: „Дасталася «Ніве» за ўсе масмеды!" — сказаў ён і таямніча ўсміхнуўся.

Ізноў беларусы сустрэліся з беларусамі...

**Ада Чачуга**

*Фота Сяргея Грынявіцкага*



# „Свята беларускай культуры"

У 26-м н-ры „Нівы" ад 27 чэрвеня г.г. у тэксце п.з. „Свята беларускай культуры" пакепліваў я з м.інш. моўнай нядбайнасці старшыні БГКТ Яна Сычэўскага. Падводзячы ягонае выступленне напісаў я: „Я выказваю сумаванне, што пасол выступіў адно толькі раз падчас свята культуры, бо ж мог ён нагаварыць яшчэ шмат чаго цікавага".

Ян Сычэўскі з павагай аднёсся да маёй заўвагі і ўжо падчас Мастацкіх сустрэч Беласток-Гродна ў нядзелю 18 ліпеня выступіў ён на самым пачатку са сваім старым гітам (англ. *hit* — удар) і абвясціў на ўвесь беластоцкі амфітэатр, што „Ніва" аплёўвае яго і яшчэ шмат каго; мова была пра маё апісанне згаданага мерапрыемства. Ян Сычэўскі канкрэтна не назваў аўтара (мяне, значыць) і не прывёў прыкладаў тых маіх „пляўкоў"; дарэчы, спадар Ян пастаянна не прыводзіць прыкладаў у падтрымку сваіх закідаў, адно часам згадвае што *przykłady można mnożyć*. Затое канчаючы сваё выступленне санавіты рытар паставіў рытарычнае пытанне: ці дапусціма, каб грашыма падаткаплацельшчыкаў фінансаваць такое выданне?

Спадар Ян Сычэўскі хіба не ведае, і хіба ведаць не хоча, што пра ладжаныя з яго ўдзелам мерапрыемствы ў той жа „Ніве" пішуць (плююць?) намнога больш (і то станоўча) ад яго заслужаныя і для самога БГКТ, і для ўсяго беларускага асяроддзя Беласточчыны дзеячы. Дакараючы „Ніву" слаўны наш рытар без ніякай агаворкі паставіў у адну шарэнгу са мною-„плявакам" і Віктара Шведа, і Міхася Хмялеўскага. Віншую спадара Сычэўскага з выдатным сінтэзам і такой пашанай ветэранаў свае арганізацыі! Старшыня пэўна таксама не рад ведаць, што ніўскія аўтары пішуць не адно пра яго, вядомага па выдатнейшых заслугах для вараЖнечы ў нашым асяроддзі, але перш за ўсё пра нашых простых, мірных і сціплых людзей, якія сваёю карпатлівую працай ствараюць **нашае** тут роднае жыццёбыццё, у тым і культурнае.

У маім тэксце, напісаным мо і на чый вельмі чуйны погляд празмерна лёгкай рукою, не дашукаўся я нічога, што б можна было палічыць аплёўваннем і выказванне Яна Сычэўскага лічу выдумоўваннем сабе фіктыўных фактаў дзеля наношання па іх гучных гітаў. За дапушчаную сабою неахайнасць удары ўся ён у чужыя грудзі. Мала таго, называючы мой тэкст аплёўваннем, Ян Сычэўскі допусціўся і семантычнай празмернасці і калі б трымацца ягонай семантычнай логікі, тады б дзеля акрэслення **ягонага** выказвання пра „аплёўванне" трэба было б прымяняць вульгарызмы. Да такое вось „культуры" гне спадар старшыня.

Калі **сур'ёзны** чалавек, якім мог бы быць, як у тым выпадку, нават старшыня **культурнага** таварыства, мае засярогі да зместу нейкага артыкула і лічыць яго непраўдзівым, тады ён пасылае ў рэдакцыю свой пратэст і правільнае паводле яго асвятленне фактаў; наша рэдакцыя публікуе і непрыхільныя сабе тэксты. Я асабіста не лічу сябе беспамылковым і калі дапусціўся „аплёўвання", якога сам не ўсведамляю, ахвотна даведаюся другога пункту гледжання на справу. Ян Сычэўскі пры маёй памяці ні разу не пэцкаў сваіх рук палемікай. Навошта дурыць сабе галаву аргументамі, калі можна лёгка нарабіць у мікрафон крыку, што „Ніва" яго аплёўвае? А можа ён не ведае, што можна па-цывілізаванаму?..

Дапісаўся я да кур'ёзу, бо якое ж дачыненне да палемікі мае мецэнат Ян Сычэўскі, калі ў ягонай *idée fixe* забетанавана расправа з „Нівай" без аглядкі на тое, хто і што там піша. Спадар Сычэўскі пэўна марыць, што калі ўжо не будзе беларускага друкаванага слова, ён тады зможа стаць у светлым, не засеняным нічыім „аплёўваннем" арэоле героя змагання за родную **культуру**.

Кур'ёз да слёз. І смех і грэх.

Мерапрыемства, пра якое пісаў я, называлася **святам**. Выканаўцы стараліся развесяліць публіку і іх выступленні прымаліся ёю з радасцю. І я не бачу падстаў, каб пра такую імпрэзу было мне пісаць з пахавальным пафасам; відаць пану Яну даспадобы рэквіем не толькі „Ніве". А за тое, што зачэпкаю для пакеплівання стаў спадар Сычэўскі, хай ён удзячыцца сабе. Бо пра сур'ёзных людзей я стараюся пісаць з належнай ім пашанай.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Марк Шагал чарговы раз праляцеў над Віцебскам

З 1991 г. у Віцебску адбываюцца „Шагалаўскія дні”. Першыя адбыліся 16—18 студзеня. Наступныя ўжо штогод пачыналіся ў пачатку ліпеня, каб ахапіць 6 ліпеня, дзень нараджэння вядомага ва ўсім свеце мастака. Віцебск — родны горад Марка Шагала, стаў матывам шматлікіх яго карцін. Сёння ўжо вядомым стаў факт, што М. Шагал нарадзіўся ў Віцебску а не ў мястэчку Лёзна, як да нядаўна значылася ў біяграфіі мастака. Нарадзіўся 6 ліпеня 1887 г. у доме па вуліцы Сураскай у Пескавацiку — прыгарадзе Віцебска, пра што сведчаць архіўныя дакументы і аўтабіяграфія мастака „Моя жизнь”. Сям'я мастака днём нараджэння прызнае 7 ліпеня, хаця мастацтвазнаўца Аляксандра Шатскіх няўмольна даказвае, што ўсё ж такі М. Шагал нарадзіўся 6 ліпеня. Так сведчаць дакументы.



Вершы чытае Давід Сімановіч

Таму і Віцебск, насуперак усяму свету дзень нараджэння М. Шагала адзначае 6 ліпеня.

Вяртанне вялікага мастака ў Віцебск не адбылося без перабояў. На працягу многіх гадоў Віцебск не прызнаваўся да свайго сына, хаця прызнаў яго ўвесь свет. Сам М. Шагал у аўтабіяграфіі піcаў. „Ни царской Росии, ни России Советской я оказался не нужным. Я им здесь непонятен. Я им — чужой”.

Толькі ў 1973 годзе М. Шагал прыехаў у Савецкі Саюз — у Маскву і Ленінград. У Віцебск не паехаў: ці то ўлады не дазволілі, ці сам не хацеў расхваляваццa тым, што пабачыць у савецкім Віцебску. Выехаў быў жа адтуль летам 1920 г. і да смерці не пабачыў роднага горада, які яго натхняў да апошніх дзён жыцця. У 1962 г. хацеў перадаць свае карціны на радзіму і прасіў даць яму скромны домік у Віцебску. З такой просьбай звяртаўся да Хрушчова. Яго памочнік В. Лебедзеў, не давёўшы прапановы да генсека, так пракаментаваў карціны Шагала: „Евреи, да ещё и летают. Это нам не нужно”. Толькі перыяд перабудовы ў СССР паспрыяў вяртанню мастака на радзіму. Пазней дайшла і дзяржаўная незалежнасць Беларусі. Хаця ў 1920 г. Шагал пакінуў Віцебск, яго сляды там асталіся. Цудам ацалеў дом пры вуліцы Пакроўскай 29, дзе мастак жыў з бацькамі. Асталіся архіўныя дакументы, хаця з часам адышлі з гэтага свету людзі, якія памяталі М. Шагала. Першым, хто адышоў у нявысветленых умовах, быў Юдэль Пэн — першы настаўнік мастацтва М. Шагала. У 1937 г. невядомыя забілі яго ў віцебскай кватэры. Сям'я М. Шагала, яго сёстры таксама пакінулі Віцебск у 20-я гады, выязджаючы ў Ленінград і Маскву. На яўрэскіх могілках асталіся толькі магілы бацькоў. Сёння ўжо невядома дзе яны — час разбурыў і могілкі, і магілы.

Аднак пачатае М. Шагалам развіццё мастацтва ў Віцебску ў 1918 г. усё не дазваляла забыць яго асобу ў гэтым горадзе. Ён жа 25 кастрычніка 1918 г. быў назначаны Наркомпросам (Народны камісарыят асветы Віцебскай губерні) адказным за мастацтва. Яму дазволена было арганізаваць у губерні школы, выстаўкі, музеі. Зараз жа адкрыў ён мастацкую школу, у якую запрасіў працаваць Юдэля Пэна, Веру Ермалаеву, Лазара Лісіцкага, Казіміра Малевіча, Мсціслава Дабужынскага і іншых. Легендай па сённяшні дзень з'яўляецца мастацкае афармленне Віцебска на першую гадавіну кастрычніцкай рэвалюцыі. У 1918 г. мясцовыя мастакі па загадзе М. Шагала арыгінальна ўпрыгожылі горад. У сваіх успамінах дырыжор Мікалай Малько так апісваў тыя дні ў Віцебску: «Я помню первую годовщину Октябрьской революции, когда Витебск был украшен разноцветными флагами, плакатами, и кое-где на видных местах очень высоко были выставлены картины Марка Шагала. Жители Витебска с удивлением смотрели на изображенных там зелёных лошадей и на „летающего” еврея. Мирных провинционалов одинаково изумляли и цвет лошадей, и сюжеты картин, и поза рисованного над домами человека: ничто не указывало на то, что человек „летит”. Жители пожимали плечами, вздыхали потихоньку и говорили: „Революционное искусство... Когда-нибудь, быть может, поймём...»


Дом М. Шагала па вул. Пакроўскай у Віцебску (від ад панадворка).

Хутка ў Віцебску, запрошаныя М. Шагалам мастакі стварылі новую мастацкую арганізацыю „Уновис” (утвердители нового искусства). Кіраваў ёй К. Малевіч, аўтар тэорыі супрэматызму ў мастацтве. Разыходжанні наконт мастацтва з К. Малевічам прычыніліся да выезду М. Шагала ў Маскву, якую таксама ў 1922 г. пакінуў, з'язджаючы за мяжу ў Нямеччыну, а затым у Францыю, дзе і памёр у 1985 г.

У Віцебску сёй-той гаварыў і ўспамінаў М. Шагала. Асабліва загаварылі напярэдадні яго 100 гадавіны ад дня нараджэння. Мясцовая інтэлігенцыя намерылася вярнуць імя М. Шагала гораду. У 1987 г. не было гэта так лёгка: не дапушчаліся артыкулы пра М. Шагала ў мясцовых газетах, а нават і ў „Літаратуры і мастацтве”. У тэлевізійнай праграме з пабыўкі Андрэя Вазнясенскага ў Віцебску загадана было нічога пра М. Шагала не ўспамінаць, хаця паэт хадзіў па слядах мастака. Краязнаўчы клуб, які вырашыў з нагоды 100-га юбілею правесці сход прысвечаны М. Шагалу, абкамам КПБ быў забаронены.

7 ліпеня 1987 г. увесь свет адзначаў дзень нараджэння М. Шагала, апрача, вядома, Віцебска і Беларусі. Пра мастака словам нават не ўспомнілі беларускія газеты. Аднак змаганне за вяртанне М. Шагала ў Віцебск праводзіла беларуская прагрэсіўная інтэлігенцыя: Давід Сімановіч, Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Алесь Адамовіч і іншыя. 12 лістапада 1987 г. у „ЛіМе” паявіўся артыкул Д. Сімановіча „Ці дайшла да Віцебска перабудова?”. У ім успамінаўся і М. Шагал. 24 лістапада на прэс-канферэнцыі І сакратар абкама КПБ абвінавацію Д. Сімановіча ў экстрэмісцкай дзейнасці: „Вы вбиваете клин между партией и интеллигенцией, между интеллигенцией и рабочим классом; что, крови народной захотелось?”. Пазней было пісьмо В. Быкава, Р. Барадуліна, А. Вазнясенскага і Д. Сімановіча ў рэдакцыю газеты „Совесткая культура” (кастрычнік 1988 г.) з патрабаваннем вярнуць імя М. Шагала ў Віцебск: „Невозможно понять Шагала, изъявь из его судьбы Витебск. Но и Витебск без Шагала утрачивает ярчайшую страницу своёй истории. И по меншей мере странно, что сегодня это ещё нужно кому-то доказывать”. Прапанавалася тады стварыць музей М. Шагала, назваць яго імем вуліцу ў Віцебску, устанавіць мемарыяльную дошку на яго доме.

Толькі ў суверэннай Беларусі ўдалося дачакацца канкрэтных дзеянняў вакол вяртання М. Шагала ў Віцебск. Віцебскі абласны выканаўчы камітэт загадаў стварыць Шагалаўскі камітэт у Віцебску, адкрыць дом-музей М. Шагала па вуліцы Пакроўскай, правесці ІІ Шагалаўскія чытанні, адкрыць помнік, мемарыяльную дошку і музей мастака ў 1992 г. І сапраўды ў 1992 г. усё гэта было здзейснена. Помнік у пачатку Пакроўскай вуліцы (за савецкім часам Дзяржынскага) выканаў віцебскі скульптар Аляксандр Гвоздзікаў. Па вуліцы Савецкай 25 паўстаў музей М. Шагала. Праўда — без яго ных прац пакуль. Пачалася рэстаўрацыя дома М. Шагала.

***(заканчэнне будзе)***

**Лена Глагоўская**

*Фота аўтара*

# Кнігі для нашых

Рэспубліканская навукова педагагічная бібліятэка ў Мінску падаравала „Ніве” 44 кнігі на патрэбы „Зоркі”. Будуць яны выкарыстаны як падарункі для найбольш актыўных карэспандэнтаў і школ, у якіх яны вучацца. Перадала іх нам Аліна Васільеўна Шамелава, якую цешыць цікавасць нашых вучняў да беларускае кнігі.

— Хай карыстаюць. Заўсёды звяртайцеся да нас — наколькі будзем магчы, будзем дапамагаць. Вельмі прыемна, што вы такую работу праводзіце. Мы вельмі вас паважаем і вельмі цешымся, калі прыязджаюць дзеці, валодаюць беларускай мовай, іх цікавіць гісторыя і культура Беларусі.

Бібліятэка абслугоўвае настаўнікаў Беларусі літаратурай па адукацыі, псіхалогіі і па іншых галінах. Кнігамі можна карыстацца на месцы, а па рэспубліцы — цераз міжбібліятэчны абмен — кніга дасылаецца не чытачу, а ў бібліятэку там, дзе ён працуе. А кнігі, якія мы атрымалі — з Рэзервовага фонду. Дзейнічае ён з 1992 года. Папаўняецца выданнямі беларускай літаратуры — гэта і падручнікі, і мастацкая літаратура, а ў апошнія гады — і перыёдыка для беларусаў замежжа. У гэтым годзе падпіска зроблена на 309 мільёнаў рублёў, з чаго — 260 млн. — для Польшчы. Абяцалі і мы штосьці пераказаць у Бібліятэку з кніг, якія спатрэбяцца настаўнікам у Беларусі. Напачатак — кніга, якую выдаў Беларускі саюз у Польшчы — Аліны Ваўранюк „Беларускія гульні”. **(лук)**


Аліна Васільеўна прапануе нашым чытачам новыя, прыгожыя выданні. Столькі, колькі досыць дужая Міра Лукша (злева) зможа сама адна самааддана завалачы ў Беласток у сваім ёмістым рукзаку.

# Вы запамятаеце мае словы

**Василий Константинович Старовойтов, дважды герой, человек прошедший войну, похоронивший своих родителей, восстановивший хозяйство, осужден на два года и будет ходить с сумой в общей колонии с преступниками! — адчайваецца яго абаронца з Цэнтра па правах чалавека адвакатка Вера Страмкоўская.**

— Вот я — герой социалистического труда, я живу в самом миролюбивом, справедливом, правовом государстве, вот меня не посадят, не арестуют! Я честно заработал свои ордена! — біў сябе ў грудзі старшыня перадавога калгаса, параўноўваючы сябе з тымі, якіх у 1930 годзе выгналі з гэтага калгаса, расстралялі, а дзяцей „ворагаў народа" рассыпалі па свеце. Гэта значыць — бацьку і сыноў Анны Максімаўны Кляўзер. — Я их не расстреливал, зачем мне надо им помагать?

— У жанчыны ў роце не было ні зуба, — расказвае старшыня Бабруйскай арганізацыі палітычных ахвяр Ганна Бакач. — Партыя яшчэ была пры ўладзе. Рэспубліка рашыла, рашыла вобласць усім пакрыўдджаным выплаціць па дзве месячныя зарплаты за расстраляных блізкіх. Маем такі дакумент у нашым музеі: разглядалася пытанне аб выплаце А. М. Кляўзер дзвюх месячных калгасных зарплат па расстраляным бацьку. „Решили отказать" на гэтым заседании — старшыня В. К. Старавойтаў, парторг Верамейчык і двух калгаснікаў-членаў праўлення. Гэта быў адзіны выпадак у Беларусі, калі адмовілі выплаціць такую суму асобе, якой яна праўна належыцца.

Кажу яму: Васілій Канстанцінавіч, памажыце. Яе дом у калгас ваш пайшоў, яе коні, свінні, зямля, сенажаці, на месцы вашага праўленні стаяў іхны дом, калі ў 1930 годзе „раскулачвалі" сям'ю Кляўзер. Такія людзі як Анна Максімаўна без хлеба цяпер сядзяць. У Анны Кляўзер быў пасля вашага рашэння інфаркт! Я прашу дапамогі не сабе. Кажаце, вы іх не расстрэльвалі? А іхныя то землі ў вашым калгасе! Заграбленыя!" — „Не надо было иметь по дзесять коров, по десять свиней, по сто гектаров земли — вот бы и никто не расстрелял! Мы живём в самом правовом государстве, у нас ценится труд. Мне за мой труд дали медали и ордена, и мне их никто не отнимет! Вот я — лучший председатель бывшего Союза! Ко мне американцы ехали, голландцы, а теперь я вынужден распустить колбасный цех, санаторий, скорняжный цех!" — „А што ў вас, ці не яўрэі працавалі ў калгасе ды раптам выехалі ў Ізраіль, у Амерыку, у Канаду? І ў вас раптам няма каму працаваць?" — „А при чем тут евреи?" — „Ну, прадсядацель — вы, праўленне вы не памянялі, калгаснікі засталіся тыя ж. Можа, я адкажу вам, чаму ваш калгас цяпер у такім становішчы крытычным? Што па тры месяцы зарплату не даяце? Па-першае, вам давалі беспрацэнтныя крэдыты, а нікому іх не давалі. Вам давалі ўгнаенні, тэхніку, якую вы хацелі. Для таго, каб будаваць паказуху — „один колхоз по миру". Каб яго амерыканцам ды шведам паказваць, ды і вы ўсе краіны аб'ездзілі. А цяпер, калі ўсе калгасы ў аднолькавым становішчы, і вам нічога не даюць, дык вы работнікам зарплаты затрымалі. А чаму вы сабе зарплаты не затрымалі, і сваёй сям'і справна выплачваеце?" Як ён не сарваўся, як не пачаў бегаць па кабінеце, пляваца: „Цьфу, цьфу, цьфу!" Пасля супакоіўся. Тады я сказала, яшчэ раз выцягваючы пратакол пра справу Анны Максімаўны: „Можна вам сказаць, што я пра вас думаю? Яе бёдла гэта вы згнаілі, яе дзяцей па свеце пусцілі, і пагінулі яны на этапах. Ад турмы і ад торбы ніхто не адмовіцца. Вы запамятаеце мае словы! Вы яшчэ будзеце, як я тут у вас у кабінеце, прасіць справядлівасці ў свайго народа. Калі гэта будзе, не ведаю. А ваш голас будзе голасам благаючага ў пушчы".

Як ён пачаў рагатаць! Хахатаў так, што з бухгалтэрыі дзверы папрыадчынялі, думалі, „с ума сошёл". Хацеў чарніліцай у мяне запусціць, ды я кінулася наўцёкі на лесвіцу.

Калі каменшчыка, рабочага пасадзяць, то не мае такое абароны. Гэта нармальна. Не гавару пра іншыя аспекты справы, чаму яго судзілі. Ён не пашкадаваў, а чаму цяпер яго шкадаваць? Вось яму ў Чыкага фонд заснавалі ў дапамогу, пакрыўджанаму рэжымам. Заснуйце фонд гэтым, у каго хлеба няма, — хвалюецца Ганна Мартынаўна Бакач.

**Міра Лукша**

# Бестурботнае дзяцінства

Нічога надзвычайнага не падкінула жыццё мне: ні дываноў вышываных залацістым квеццем, ні сцяжынак засланых ружамі, толькі адну нядолю і нястачы. Аднак былі ў маім жыцці светлыя хвіліны ў самым цудоўным перыядзе маёй біяграфіі — дзяцінстве.

Бестурботнае дзяцінства! Колькі ж у ім было шчасця і радасці! Дзіцячыя гульні да позняй ночы пры поўні месяца, забавы ў жмуркі на пашы, велікодныя выбіткі ў яйкі... І тыя пагоні на конях, і шматгадзінныя размовы на духмяным сене ў стадоле сябрука Алеся Рэпкі...

Найчасцей гулялі мы ў вужа і явара, а збіраліся пад лесам на скрыжаванні дарог, непадалёк сядзібы Яна Смыка і Алеся Рэпкі. Шматлікія дзіцячыя галасы вячэрнім рэхам адбіваліся ад сцяны лесу. Неўзабаве ў наша дзяцінства ўварвалася вайна.

Пяты годзік пайшоў мне, калі ў Кузаве ў час фронту кватаравалася савецкае войска. У стадоле Мікалая Саўчука (які непадалёк царквы жыў) спыніўся ўзвод танкістаў. Яны кожнай раніцы са спевам ішлі ў непадалёкі лес на вучэнні. Прыкмеціў я іх аднойчы. Калі я стаяў пры дарозе разявіўшы рот і прыглядаўся вайскоўцам, нечакана падышоў да мяне камандзір, які ішоў збоку і сказаў: „Пойдём, мальчик, с нами" і, узяўшы мяне за руку, павёў за сабою.

Кусочак дарогі падышлі мы лесам, а калі спыніліся перад агароджай з калючага дроту, камандзір сказаў: „Здесь обождёшь меня. Будем обратно возвращаться, заберём домой".

Цэлы дзень прасядзеў я на траве пры дарозе. Прыглядаўся то на вартаўніка з карабінам, то зноў на салдат занятых вучэннем.

Пасля заходу сонца мае знаёмыя вярталіся дамоў і камандзір забраў мяне да сябе на кватэру. Там уручыў мне некалькі банак тушонкі, трохі кускавога цукру і шакалад. Калі я вяртаўся дахаты загружаны ласункамі, сустрэў сваю бабульку, якая шукала мяне па вёсцы, палічыўшы мяне загінуўшым. Радасці не было канца: бабулі — ад знойдзенай „згубы", а мне — ад смакавітых ласункаў.

Мае паходы працягваліся да таго часу, пакуль не пачалася сутычка з немцамі, якія з Брэста прабіваліся ў напрамку Беластока. У бітве той загінула многа рускіх танкістаў. Яны пасля гэтага здарэння пакінулі нашу вёску.

Пасля вайны я наймаўся пастухом. Пасвіў авечак і кароў. У кожную нядзелю выводзіў на пашу кабылку хроснай маці. Слабым я ездаком быў, таму старэйшыя хлопцы часта палохалі маю кабылку і я падаў з яе, што выклікала кучу смеху. Заплаты ніякай не давалі мне аднавяскоўцы за „чаргу" (авечак і кароў пасвілі ў вёсцы па чарзе, кожны дзень іншы гаспадар). Толькі хросная маці ў канцы года прыносіла маім бацькам нейкі падарунак. А я задавальняўся „добрым" абедам з куска сала і лусты хлеба. На вячэру гаспадар частаваў мяне міскай супу або скваркамі. Пры гадавых святах, як Вялікдзень ці Сёмуха, трапляўся кусочак мяса ці свойскай каўбаскі. Тады я адчуваў сябе самым вялікім шчаслівіцам на свеце.

**Уладзімір Сідарук**

# Беспрацоўе на Бельшчыне

У канцы чэрвеня г.г. у Бельскім павеце было зарэгістраваных 2744 беспрацоўных, у тым ліку 1570 жанчын. Права на дапамогу па беспрацоўі мела 400 асоб, у тым ліку 139 жанчын. У месяцы чэрвені на ўлік беспрацоўных сталі 182 асобы, калі ў той час працу знайшло 206 чалавек. За гэты перыяд на ўстанову па працаўладкаванні паступіла 95 прапаноў працы ў наступных прафесіях: прадавец, служачы, мантажнік водаправодных і каналізацыйных сетак, работнік харчовай вытворчасці.

На працягу чэрвеня параду атрымалі 73 беспрацоўныя. У параўнанні да папярэдняга месяца лік беспрацоўных скараціўся на 157 чалавек, а атрымальнікаў дапамогі — на 78 асоб. Частка беспрацоўных атрымала накіраванне да публічных работ, а кароткатэрміновы занятак да шасці месяцаў прынялі 56 чалавек.

У бельскую ўстанову па працаўладкаванні не паступалі прапановы на інтэрвенцыйныя работы з гмін Рудка, Боцькі і Орля. Не было таксама групавых звальненняў з работы. З боку беспрацоўных не было ахвотных узяць пазыку на вядзенне гаспадарчай дзейнасці.

**Міхал Мінцэвіч**

# Канец свету ў Старой Старыне

Будзённы поўдзень. Старая Старына. Гарачыня. На лавачцы непадалёк асяродка адпачынку сядзяць пенсіянеркі.

— Ці будзе канец свету? — пытаем з Жанэтай Роляй жанчын.

Кабеты здзіўляюцца, што *па-свойму* гаворым.

— А вы самі адкуль будзеце?

Доўга расказваем пра вясковую радню і сваякоў. Яшчэ даўжэй даводзіцца паслухаць пра сваякоў адной бабулі з Крывятыч. Але дзякуючы гэтаму пачатку нашы інфарматаркі адкрываюцца.

— Бо да нас іегавісты ўсё падыходзяць, — пачынае адна кабета. — Такія быццам вы, маладыя. І ўсё намаўляюць: *пішысь ды пішысь. Pani przeczyta*, даюць свае кніжкі. А я на тое: *Nie bede czytać, bo do szkoły nie chodziła, samo wojna była.* То яны: „Мы пані раскажам як калісь было". — Ой дзеткі *коханэ*, — я на тое, — то я вам магу расказаць, як было! Я перажыла і Сталіна, і Гітлера, і Герка... І пытаю іх: *Колькі багоў на свеце?*

— Адзін, — яны.

— То навошта яго раздзяляць? Наш Бог, ці ён добры, ці дрэнны — наш! І нам трэба ісці сваёй дарогай.

Яны: *То довідзэня і пшэпрашам.*

Цяпер іегавісты здалёк мінаюць Старую Старыну, і асабліва хату нашай бабулі.

— А на самай справе вы ўмееце чытаць? — пытаем разумную жыхарку Старой Старыны.

— Пэўна што ўмею, — смяецца пенсіянерка і яе сяброўкі.

**То ж мітрапаліт прыедзе!**

— У нашым сяле няма размовы пра канец свету, — заяўляе першая бабуля.

— Але як дзесь далей паедзеш, то ўсё пра тое гавораць. Вы б пайшлі ў Война́ўку, папыталі, — кажа другая.

— То ж і ў нас, у другім канцы сяла, правілі, — здраджвае трэцяя.

— Але, я сама чула як Мішка гаварыў, — заяўляе чацвёртая, — „Давай, Галіна, піво, бо канец свету будзе", да нашай *склеповай. Бото* першы канец меў сёмага ліпеня збыцца, а другі семнаццатага. То тыя, што пад магазінам ляжалі ўсё пра той канец балталі.

— Хто, хто? — пытаем бабуль.

— А, ну іх!.. — махае рукой наша субяседніца. — Такія, што выпіць любяць! Яны то апошнім часам як на гібель якую пілі. Зайдзеш за магазін, а там як селядцы ляжаць. Як тыя мухі ад мухазолу.

— Ну і той Мішка сказаў, што 28 ліпеня канец свету будзе, — кажа бабуля, якая раней заяўляла, што не чула размоў пра канец свету.

— Ці ж мы не дачакаемся? Ці мы нехрысты якія? То ж да нас мітрапаліт Сава на Спленне прыедзе! Ужо пісьмо такое для бацюшкі ў Вэрсток прыслаў, хоча парафію нашу пабачыць.

— Ніэ, нэ прыждэм, — адстойваў пан Мішка Т. — Канец свету мусіць здзейсніцца.

— Мішко, свету канца ніколі не будзе, — талкавала чорнаму прароку бабуля, якая раней збіла з панталыку іегавістаў.

— Канец свету то будзе, — але нам, людзям! Але свету не будзе канца. Бо мы не ведаем яго пачатку, ды і канца не павінны ведаць!

— То пшэпрашам, цётко, пшэпрашам, — сказаў тады пан Мішка Т. і больш у прысутнасці нашай бабулі не сеяў чорнага песімізму.

**Вы можа дачакаеце**

— Наша бабка гаварылі, — успамінае трэцяя пенсіянерка, — пра той КАНЕЦ. Бывала, возьмуць нас, дзяцей, і кажуць: *Я ўжо нэ дожыву, але віэтэ можа і дажывеце... Што цэлы свіэт будзе павуціннем аплецены.*. І возьміце сёння — усе тыя драты, тыя святла? Ці ж не аплецены свет павуціннем?

— А памятаеце як Барбарка казала? — дадае другая пенсіянерка. — Што як адзін роварам ехаў, то ўсе людзі на вуліцу павыбягалі, і на зямлю пападалі. А як першы самалёт пабачылі, маліліся! А цяпер? Ляціць сабе той наш пагранічнік з Чаромхі ды яшчэ рукой да нас памахае...

— Так, так, — ківае галавой чацвёртая бабуля. — Цяпер людзі нават у сны не вераць. Скажы каму што табе прыснілася — стануць насміхацца, што прыдумваеш быццам...

— А пра той Канец, — дадае іншая пенсіянерка, — то ўся навалач нас пытае. *Że to u nas koniec Świata, że wrony zawracajom...* Ну бо ж вядома... За лесам граніца, мяжа з Беларуссю. То і канец свету, праўдзівы.

**Ганна Кандрацюк**

# Чарапашыя інвестыцыі

Орля — як гмінны цэнтр — пачаў развівацца ў 80-х гадах, але неўзабаве, з надыходам палітычных і гаспадарчых перамен, час тут быццам бы спыніўся. Жыхары Орлі сталі тужыць па мінулым.



*Аддзелачныя работы закончым да канца года, — завярае кіраўнік будовы Адам Сухаверскі.*

Напрыканцы г.зв. камуны ў Орлі пачаліся чатыры вялікія будовы: школы, асяродка здароўя і двух жылых блёкаў (адзін — жыллёвага кааператыва, другі — пры школе для настаўнікаў). За шэсць гадоў пабудавалі толькі школу. Будова асяродка здароўя спынілася на бетонных фундаментах, а жылога блёка — не выпаўзла з катлавана для падмуркаў. Пасля адзінаццаці гадоў людзі страцілі надзею, што атрымаюць кватэры.

Будова трохпавярховага блёка з 18 кватэрамі для настаўнікаў пачалася ў 1988 годзе. Побач будавалася новая школа, якую здалі ў карыстанне 12 снежня 1992 года. Настаўнікі цікавіліся будучымі кватэрамі, наведвалі будаўнічую пляцоўку, цешыліся відокам сцен першага паверха. Аднак неўзабаве надзея на хуткае наваселле прапала.



*11-гадовы арлянскі даўгабуд.*

У красавіку 1990 года інвестар — Прадпрыемства абслугі інвестыцый — быў прымушаны спыніць работу. Будоўля была закончана начарна — з вонкавай сталяркай і рубероідавым дахам. Пяць месяцаў пазней дах загарэўся. Дзеці падпалілі дахавую масціку, на якую паложаны быў рубероід. Згарэла 10 квадратных метраў даху. Рамонт пачаўся два гады пазней — у лістападзе 1992 г. Аднак будынак, якога ніхто не пільнаваў, на працягу наступных гадоў знішчаўся. Зладзеі ўкралі вокны і дзверы. Гэта ўзбударажыла жыхароў. Толькі ў 1997 г. войт вырашыў замураваць пазбаўленыя сталяркі праёмы. На завяршэнне будоўлі гміна са свайго бюджэту прызначыла 1 млрд. старых злотых, за якія адзін рабочы ўвесь год корпаўся на будаўнічай пляцоўцы. За гэты час паставіў ён перагародкі і паклаў тынкі. У наступным годзе на аддзелачныя работы ў блёку і перабудову кацельні адведзеных з бюджэту было 217 618 зл., але выкарыстана толькі 57 538 зл. Гміна папросту не забяспечыла выканання аддзелачных работ, пракладкі санітарнай сеткі і не аб'явіла таргоў на перабудову кацельні.

Урэшце надзея на заканчэнне даўгабуду з'явілася сёлета. Рашэннем Рады гміны ад 30 сакавіка на будову жылога блёка прызначаных было 300 тыс. зл. Таргі на завяршэнне будовы выйграла Будаўнічае прадпрыемства з Бельска-Падляшскага, якое запрапанавала найніжэйшы кошт — 362 537 зл. 14 чэрвеня бельскія будаўнікі ўвайшлі на пляцоўку.

— Дамовіліся мы, што да канца года закончым аддзелачныя работы, — кажа кіраўнік будовы Адам Сухаверскі. — Зараз працуе дзесяць рабочых. Зрабілі мы ўжо падлогі ў падвале, паклалі гарызантальную ізаляцыю, пачынаем класці вонкавыя тынкі. Пазней памалоем будынак унутры. Супрацоўніцтва з гмінным будаўнічым інспектарам у нас паспяховае.

Гмінныя ўлады баяліся, што не будзе ахвотных выкупіць кватэры ў блёку. Аднак аказалася, што калі толькі фірма пачала весці работы, у гміну адразу паступіла 10 прашэнняў ахвотных жыць у першым арлянскім „небаскробе”.

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтар*

# За малое піва

Серада, 14 ліпеня, гадзіна 6.40 раніцы. Звоніць тэлефон. Падымаю трубку. Мужчынскі голас просіць мяне, каб я паведаміў сялян, што сёння а 8.30 прыедуць купляць маладое быдла ды кароў. Я сказаў, што паведамлю солтысу — ён ведае, хто хоча прадаць быдла.

Прыехалі, пачалі прымаць. За маладыя ялаўнік, цялушак плацілі да 2,80 за кілаграм; гэта залежала ад вагі. Калі прывёў карову Сцяпан Семянюк і завёў на вагу, дык сказалі, што заплацяць па 1 златоўцы за кілаграм жывое вагі! Тут мне, як вольнаму гледачу, прыйшла ў галаву думка, што за 1 кілаграм ялавічыны не купіш малога піва (250 грамаў), а ў крамах не відаць, каб была танная каўбаса.

Што зрабілі сялянскія прафсаюзы, хоць іх ёсць аж тры? — „Салідарнасць Р. І.”, „Самаабарона” ды Згуртаванне сялянскіх гурткоў? Просты адказ: нічога добрага. Калі сяляне выйшлі на блакіроўку дарог, іх разагналі і пачалі судзіць за тое, што яны дамагаюцца свайго мінімуму, каб аплачвалася ім гадаваць жывёлу ды абрабляць гаспадаркі! Але нашы ўлады гэтага не бачаць і не хочуць чуць, што так дрэнна дзеецца на нашай вёсцы. Ім толькі хутчэй у Еўрапейскі саюз ды НАТО, а тады будуць ім гатовыя галушкі падаць з неба!

Думаю, што трэба, каб сяляне супольна з рабочымі ды медсёстрамі дагаварваліся ды разам арганізавалі забастоўкі — можа тады каманда Бальцэровіча апамяталася б ды дайшла б да вываду, што губіць нашу дзяржаву, а прэм'ер-міністр Ежы Бузэк агледзеўся б, што так танцуе, як яму іграюць!..

Упадала сельская гаспадарка не адзін раз, але калі цяпер упадзе, то яе не будзе каму падымаць! Тады агледзіцца наша ўлада, але ўжо будзе запозна — тады будзе аблогам ляжаць больш за 70% зямлі, а збожжа ды мяса пачнуць нам дастаўляць краіны Еўрасаюза!

**Мікалай Лук'янюк**

# Вер — не вер

Астроне! Сніцца мне, быццам гоніць мяне нейкі чалавек. Я ўцякаю ад яго. Раптам я апынуўся ў нейкім тэатры ці вялізнай зале, дзе крэслы ідуць уверх. Гэты чалавек апрануты ў чорныя штаны і кашулю. Мо гэта паліцэйскі?!

Ён хоча забраць у мяне з рук маленькі чамаданчык. Быццам ён мне яго хоча паднесці і ўжо кіруецца, каб ісці праз усю залу наверх, па сходах. Хоча канфіскаваць у мяне гэты чамаданчык? Думае, што я схаваў там зброю. А мо яна і сапраўды там ёсць...

Я не даю яму майго чамаданчыка. Кажу, што сам занясу, куды трэба. І не пайду праз залу, а выйду за дзверы і пайду. Ён цягне чамаданчык, але я яго адабраў і ўдарыў гэтага чалавека. Ён паваліўся.

Я пайшоў нізам. Раптам гэты чалавек паяўляецца ў маёй кватэры. Ён пачынае нешта шукаць у маіх паперах. Знайшоў нейкія запіскі, якія яму чамусьці не спадабаліся. Узяў іх у рукі, разглядае. Во, бач ты, мусіць, зараз арыштуе мяне... Не, сядзіць, корпаецца ў маіх рэчах, прыглядаецца. Ну, думаю, дальбог, прапаў я. У адчаі хапаю са стала фарфоравы кубак і б'ю ім гэтага чалавека па галаве. Кубак развальваецца ў маіх руках, а чалавек асоўваецца, быццам нежывы, на стол. Кепска мне снілася, праўда, Астроне?

**Антон**

Антон! Кепска. Ты ўцякаў ад чалавека ў чорным. Чакае цябе небяспечнае падарожжа. Ты апынуўся ў тэатры — цябе акружаюць ілжывыя сябры, фальш. Але найгоршае гэта тое, што ты яго стукнуў па галаве кубкам, які разваліўся на тваіх вачах. Нешта ў цябе развaліцца ў жыцці ці ў хаце. Пра нейкую страту гаворыць і тое, што ты наогул ударыў гэтага чалавека. Страта, хвароба, смутак. Прабач, дарагі!

**Астрон**

# Конкурс імя А. Паткоўскага

Акруговы музей у Сандаміры аб'явіў конкурс на ўзнагароду імя Аляксандра Паткоўскага, стваральніка польскага рэгіяналізму, яго тэорыі і грамадскай практыкі. Мэтай узнагароды з'яўляецца інспіраванне і заахвочванне да вядзення даследаў у галіне мінулага і культуры свайго рэгіёна, замацоўвання мясцовых асаблівасцей і прапагандавання г.зв. малых айчын. Узнагароды (медалі і грашовыя прэміі I і II ступені) прысвойваюцца штогод прыватным асобам або таварыствам за значныя дасягненні ў карысць лакальнай грамадскасці. Кандыдатаў да ўзнагароды могуць прапанаваць установы, таварыствы і прыватныя асобы. Заявы можна дасылаць у адвольнай, але поўнай форме (апісальнай, справаздачнай, фатаграфічнай або фанаграфічнай з магчымымі рэкамендацыямі) па адрасе:

Muzeum Okręgowe
27-600 Sandomierz, Rynek 10

Дасланыя матэрыялы папоўняць Архіў сучаснага польскага рэгіяналізму пры Акруговым музеі ў Сандаміры. Заявы і матэрыялы прымаюцца да 15 верасня 1999 г., а аб'яўленне вынікаў конкурсу адбудзецца ў тэрміне да 15 кастрычніка 1999 г.

# Прыгранічнае абслугоўванне

Кляшчэлі знаходзяцца на шляху да гранічнага перахода ў Полаўцах Чаромхаўскай гміны. Па гэтай прычыне ў горадзе адкрылі бары хуткага абслугоўвання. Дзейнічаюць тут шматлікія прыватныя прадуктовыя крамы, а таксама аўтарамонтныя пункты. Можна заначаваць у прыватных кватэрах.

У наступным годзе на рацэ Нурцы каля вёскі Рэпчыцы пачнуць пабудову вадасховішча з прызначэннем для адпачынку і рыбагадоўлі. **(гай)**

**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня:** Яўген Мірановіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com

***Zrealizowano przy pomocy finansowej Ministerstwa Kultury i Sztuki.***
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk”, ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

***Prenumerata:***

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1999 r. upływa 5 września 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.
2. Cena prenumeraty na IV kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę pocztą zwykłą — 35,55; pocztą lotniczą Europa — 44,15; Ameryka Płn., Płd., Środk., Afryka, Azja, Australia — 61,15. Wpłaty przyjmuje „RUCH” S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK S.A. XIII Oddział Warszawa 11101053-16551-2700-1-67.
4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,30 zł, a kwartalnie — 29,90 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка




Фота Ганны КАНДРАЦЮК

__Фрашкі пра нашых__

## *З моваэнаўчай псіхалогіі*

Не абражайце вы жывёл, людкове!
Бо адна з іх хоць ліжацца дачыста,
купаецца ў пяску, а іншая — у калюзе,
усе — у чыстаце. І розум іх птушыны
ці звярыны, ва ўсіх — які даў Бог;
на колькі жыць удасца — талкуюць кожны так,
каб жыць і дзетак усіх пагадаваць
(хіба нягеглае і ніц з яго не будзе,
каб выжыць, свайму роду даць працяг),
навучыўшы праўды і патрэбы жыць як трэба...
„П'е як свіння!" „Рагоча як кабыла!" Вось абраза!
Колькі пагарды, ды не да тых, што кепска робяць,
людзей, але да чыстае, сумленнае свінні,
якой напіцца да павалу — не ў прыродзе!..

**Вандал АРЛЯНСКІ**

# *Крыжаванка*



**Гарызантальна:** 4. напр. лапці, 7. сомнабулік, 8. лёгкі летні пінжак або жакетка, 9. яма ад разрыву снарада, 10. арыгінал, 14. галоўны спявак у сінагозе, 18. доўгі бізун з кароткай рукаяткай, 19. поўны набор сталовай пасуды, 20. сталіца бразільскага штата Сержыпі, 21. дакор.

**Вертыкальна:** 1. выплюнуты згустак сліны, 2. Вільгельм, І сакратар Паўночна-Заходняга абкома РКП(б), у 1920—29 гг. член ЦК КПБ(б) (1890—1938), 3. прадмет мэблі ў выглядзе шырокай на ўсю сцяну шафы з шматлікімі секцыямі разнастайнага прызначэння, 4. размер заработнай платы, 5. гара ў Каліфорніі, 4418 м., 6. горад між Мадрыдам і Саламанкай, 11. звоніць у храме, 12. варвар, 13. мясістая расліна з калючкамі замест лісця, 15. апошняя грэчаская літара, 16. прадукт працы для продажу, 17. вялікі шырокі нож.

**(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 25 нумара**

**Гарызантальна:** шпіг, катэр, Аўрам, твор, Шчара, эсэіст, эратаман, краса, хабарнік, падлетак, вядро, скалалаз, платан, лыжка, грым, загана, гонта, рама.

**Вертыкальна:** ганчар, рэгрэс, павітуха, гарэм, ордэн, такса, арабеска, самахвал, капа, Анды, анод, акно, акварыум, язычок, ракета, алмаз, страх, ангар.

Рашэнне: **Аляксандр Лукашэнка**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў і **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

# *Пра жывёл*

У Паўночнай Карэі адбыліся мемарыяльныя ўрачыстасці з нагоды пятай гадавіны смерці тамашняга вялікага правадыра Кім Ір Сена. Перад ягонымі статуямі і партрэтамі пакланіліся 22,5 мільёна жыхароў краіны на агульны іх лік 23 мільёны. Такім чынам астаецца яшчэ паўмільёна атэістаў Кіму, якія будуць зганяць сон з вачэй настаўнікам ягонага культу. Карэйскія культработнікі могуць усё ж такі быць задаволеныя вынікамі сваёй працы, у адрозненне напрыклад ад іх англійскіх калегаў па прафесіі. У Вялікабрытаніі праведзена сярод вернікаў апытанне пра працу іх духовых вучыцеляў. І выявілася з таго апытання, што брытанцы захопленыя бліскучымі святчэннадзействамі такімі як шлюбы ды пахаванні але вельмі нездаволены перадачай імі канфесійных вартасцей міру. Крыху святла на прычыны гэтакай з'явы пралілі дацкія свяшчэннікі. Яны вось скардзяцца на розных турыстаў, якія святыню аглядаюць так, быццам былі ў заапарку. Мяецца тут пэўна на думцы адсутнасць пашаны суб'ектам цырымоніі параўнальную да традыцыйнай пагарды фауне.

Бываюць выпадкі і жорсткага стаўлення людзей да пакорлівых жывёлін. Напрыклад на славутым бразільскім пляжы Іпанема ў Рыо-дэ-Жанейра адзін купальнік, дворнік па прафесіі, Жазі Гансальвеш пабачыў загараючую ў мелкай вадзе акулу, кінуўся на яе з голымі кулакамі і забіў! Бедная рыбка мела 175 см даўжыні і важыла 45 кг. Не ўсе людзі аднак адносяцца да жывёл высакамерна. Вось адзін лакей брытанскай каралевы дадаваў у корм ейнаму сабаку віскі і джын, быццам нейкаму лорду ці барону. Калі каралева, якая з'яўляецца там сімвалам традыцыі, даведалася пра чалавечыя адносіны лакея да свайго сабакі, пераваяла яна гуманнага чалавека ў ніжэйшы чын змяншаючы адначасова зарплату. У Вялікабрытаніі па-за сценамі Віндсарскага замка сабакі ўсё ж такі намагаюцца малпаваць людзей. Адна тамашняя лэдзі адправілася з Лондана ва Уэльс поездам, забываючы на пероне свайго сабачку. Ён цярпліваенька пачакаў гадзіну, улез на наступны поезд і заехаў у Ньюпарт, дзе з дапамогай чыгуначнікаў знайшоў сваю гаспадыню.

І ў Японіі жывёлы таксама малпуюць людзей. Вось у Токіо правялі конкурс, чый звярок з выгляду і характару найбольш падобны на свайго гаспадара. Прынялі ў ім удзел 379 пар спаборнікаў. Пераможцам быў прызнаны кот 22-гадовай уласніцы, якая і атрымала прэмію ў 2,5 тысячы долараў. Пра накал змагання можа сведчыць тое, што многія палічылі сябе больш сходнымі са сваімі футравымі любімцамі і склалі шматлікія пратэсты супраць рашэння журы. У Японіі любоў да жывёлак знайшла сваё адлюстраванне і ў аблягчэнні пакупкі іх: пастаўлены там аўтаматы, з якіх можна, так як ліманад, купляць жукоў; парка каштуе каля чатырох долараў.

За жывёл можна не толькі плаціць, але і расплачвацца імі. У Ростаку ў Германіі адзін турыст хацеў расплаціцца за начлег у гатэлі трыма жывымі легванамі; пазваная паліцыя адправіла яго ў бальніцу; у якую — навіны не згадваюць. У адной краіне, не згадаю ў якой, расплачваюцца зайцамі; плацежнікаў у бальніцу там аднак не адпраўляюць.

У Швейцарыі адзін прадпрымальнік прадае парыкі каровам. Парыкі тыя, не так як у людзей, апранаецца не на галаву, а на хвост. І яшчэ адна навіна з наваколля каровінага хваста: у Малайзіі маладыя людзі адкрылі новы наркатычны сродак — газападобнае рэчыва, якое ўздымаецца над свежым каровіным блінцом. І танна, і па-экалагічнаму.

**Адам МАНЬЯК**

# *Кароткі курс параноі*

**Кандальны рай**

*(Наследаванне Віктара Шведа)*

Маю жонку, маю хату
І кандальную тугу:
Замест раю, бачу краты —
Жонка гне мяне ў дугу.

Скажаш супраць слова — лае,
Сцебанеш — здачы чакай.
Яна толькі рацыю мае —
Хоць ты плач, хоць ты канай!

Намерамі злымі морыць:
Да суседкі каб не ўцёк,
Яна мяне ў гуморы
Запірае пад замок.

Які ў яе розум тонкі:
Уначы храпака дае,
А мне кажа мыць пялёнкі —
Уся пярына для яе.

Гарох пражыць на Вялікдзень,
Каб заткнуць мне ў свята рот.
Буду есці цэлы тыдзень,
А другі — лячыць жывот.

А каб яе ўзялі чэрці!
Як мне з гэткай ведзьмай быць?
Ужо прыгнула да паўсмерці,
Як да смерці з ёй дажыць?

**Сідар МАКАЦЁР**

PS. Не ўспамінайце ліхам! Да 11 жніўня! *(11 жніўня 1999 г. — апакаліптычнае сонечнае зацьменне, прадказанае яшчэ Настрадамусам у XVI ст.).*

# *„Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка*

— Што чуваць у тваіх суседзяў?

— А ведаеш: я не цікаўлюся чужымі прыватнымі справамі. Ведаю адно толькі, што яна мае каханка, а сусед сядзеў за хабарніцтва.

* * *

Беларус, рускі і паляк апынуліся ў небе. Прымае іх святы Пётр і ўсім ставіць адно пытанне:

— Ці былі вы верныя сваім жонкам?

— Я, — адказвае беларус, — быў верны амаль усесь час, здрадзіў ёй толькі тры разы...

— У такім выпадку, — кажа святы Пётр, — атрымаеш маленькі самаходзік для язды па небе; такія ў нас правілы.

— А я, — кажа рускі, — здрадзіў сваёй толькі адзін адзіны раз.

— У такім выпадку табе належыцца большы самаход.

— А я, — кажа паляк, — у нашай каталіцкай краіне жыў прыкладна і быў сваёй жонцы верны ўвесь час.

— Тады ты атрымаеш шыкоўны аўтамабіль з аўтаматычнаю каробкай перадач, кандыцыянерам і другімі выгодамі.

Тыдзень пазней знаёмыя зноў сустрэліся. Паляк нейкі маркотны...

— Што з табою? — пытаюць калегі.

— Нядаўна бачыў я сваю жонку, як каталася на роліках.